

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamajca, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 577 Люты 2011 г.
Год выданьня 61

## Паважаныя чытачы!

На жаль, і ў гэтым лютаўскім нумары газэты мы вымушаныя працягваць балючую тэму наступстваў прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі ў Беларусі, бо палітычныя рэпрэсіі ў краіне не перапыніліся і рэжым працягвае жорсткую расправу з іншадумцамі. Але, не перапынілася і падтрымка дэмакратычнай Беларусі ў сьвеце. Гэтым тэмам надзелена значная ўвага на старонках газэты.На іх таксама хапіла мейсца і для падзеяў беларускага культурнага і грамадзкага жыцьця.

У першыя месяцы гэтага году беларуская грамадзкасьць ў замежжы панесла цяжкія страты. Адзін за другім адыйшлі ад нас знакамітыя асобы, выдатныя беларускія дзеячы, страту якіх нельга нічым запоўніць – Уладзімір Набагез, Барыс Данілюк і Паўла Урбан. Мы ўшаноўваем іх памяць і выказваем падзяку сп. Янку Запрудніку, які падрыхтаваў для газэты зьмястоўныя некралёгі пра іх, сваіх сяброў і паплечнікаў.

Рэдакцыя ізноў запрашае чытачоў да супрацоўніцтва і чакае ад вас інфармацый, парадаў, прапановаў, новых праектаў, які ўзбагацяць нашае выданьне. Таксама можаце падаваць вашыя прыватныя абвесткі, віншаваньні, паведамленьні і звароты. Газэта будзе вітаць і рэклямадаўцаў.

Выказваем шчырую падзяку ўсім нашым прыхільнікам, хто даслаў ахвяраваньні на выданьне газэты. Але, нагадваем, што газэта ўсё ж яшчэ патрабуе сродкаў і мы разьлічваем на пашырэньне кола ахвярадаўцаў. Таксама патрэбная вашая дапамога ў распаўсюджваньні газэты. У ЗША жыве значна большая колькасьць нашых суайчыньнікаў, чымся толькі тыя, хто з’яўляюцца сябрамі беларускіх супольак. Праз газэту мы маглі далучыць да беларускага жыцьця і новых людзей, якія, магчыма, таксама шукаюць кантактаў з суродзічамі на чужыне. Мы маем дастатковую колькасьць экзэмпляраў газэты для распаўсюджваньня і ахвочыя дапамагчы нам могуць іх атрымаць.

*Рэдакцыя*

## Адказ Эўразьвязу Радзе БНР

На ліст Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы 26 студзеня 2011 адказаў ад імя Міністра замежных справаў Эўразьвязу Кэтрын Эштан прэсавы сакратар Міністэрства.

У лісьце згаворыцца, што Эўразьвяз выразна асуджае рэпрэсыўныя меры, прынятыя ўладамі ў Менску і заклікае да безадкладнага вызваленьня ўсіх затрыманых па палітычных прычынах, як і аднаўленьня дзейнасьці офісу АБСЕ у Менску. Бясьпека мірных актывістаў, уключна з прэзыдэнцкімі кандыдатамі, з’яўляецца для Эўразьвязу на першым мейсцы. ЭЗ гатовы даць тэрміновую дапамогу ахвярам рэпрэсіяў. Эўразьвяз узмоцніць дыялёг з грамаждзтвам, што будзе азначаць у рэальнасьці працяг дапамогі недзяржаўным арганізацыям, сродкам масавай інфармацыі і студэнтам, а таксама ў справе спрыяньня грамадзянам выязджаць за мяжу.

Адказ заканчваецца заяваю, што рашэньнем, якое будзе прынятае 31 студзеня, Эўразьвяз выразна паведаміць аб асуджэньні апошніх падзеяў у Беларусі і падцьвердзіць сваю поўную падтрымку народу Беларусі ў гэты цяжкі час.

## ПАРЭ прыняла рэзалюцыю па Беларусі

Парлямэнцкая Асамблея Рады Эўропы 27 студзеня прыняла рэзалюцыю па сытуацыі ў Беларусі пасьля прэзыдэнцкіх выбараў, у якой рашуча асуджае дзеяньні беларускіх уладаў і патрабуе :

”7.1. неадкладна вызваліць усіх апазыцыйных кандыдатаў і іх прыхільнікаў, журналістаў і праваабаронцаў, затрыманых па палітычных матывах;

07.2. спыніць перасьлед і запалохваньне апазыцыйных палітыкаў, СМІ і прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасьці;

07.3. правесьці адкрытае расьсьледаваньне злоўжываньняў і непрапарцыйнага ўжываньня сілы з боку міліцыі і сілаў бясьпекі супраць дэманстрантаў;

7.4. спыніць выключэньне студэнтаў з унівэрсытэтаў і звальненьне людзей з працы ў сувязі з іх удзелам у акцыі пратэсту;

7.5. перагледзець сваё рашэньне аб закрыцьці офісу АБСЭ у Менску і падоўжыць яго мандат ў 2011 годзе і надалей;

7.6. завяршыць працэс рэформаў выбарчага заканадаўства і практыкі з улікам поўнага набору рэкамендацыяў БДІПЧ / АБСЭ ды Эўрапейскай камісіі за дэмакратыю праз закон (Вэнэцыянская камісія);

7.7. прыцягнуць да адказнасьці меркаваных вінаватых у зьнікненьні Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і Дзьмітрыя Завадзкага, у адпаведнасьці з рэзалюцыяй 1371 (2004);

07.08. аб'явіць мараторый на выкананьне сьмяротных прысудаў у якасьці першага кроку да адмены сьмяротнага пакараньня, у адпаведнасьці з рэзалюцыяй 1671 (2009)”.

Далей ў дакумэнце гаворыцца, што Асамблея перакананая ў карысьці санкцыяў у дачыненьні да тых, хто нясе асабістую адказнасьць за акты рэпрэсій, пры ўмове што яны адбываюцца праз справядлівыя і празрыстыя працэдуры. Таму яна (Асамблея) прапануе ўсім дзяржавам-членам Эўразьвязу, у тым ліку тым, якія не зьяўляюцца членамі ЭЗ, але маюць намер уступіць ў Эўразьвяз, падтрымаць мэтанакіраваныя санкцыяў у дачыненьні да беларускіх чыноўнікаў.

”10. Асамблея пастанаўляе умацоўваць дыялёг з дэмакратычнымі сіламі Беларусі, грамадзянскай супольнасьцю, апазыцыйнымі групамі, свабоднымі СМІ і праваабаронцамі. У тым жа ключы, Асамблея заклікае ўсе краіны Эўразьвязу:

10.1. падтрымаць і разьвіваць дыялёг з грамадзянскай супольнасьцю Беларусі і інвэставаць у міжасабовыя кантакты зь Беларусьсю на ўсіх узроўнях;

10.2. разгледзець шляхі палягчэньня выдачы віз для звычайных грамадзян Беларусі, а таксама разгледзець магчымасьць стварэньня ўмоў часовага прытулку тым, хто знаходзіцца пад пагрозай перасьледу як палітычныя апанэнты, праваабаронцаў і журналістаў;

10.3. заахвочваць унівэрсытэты, каб яны адчынілі свае дзьверы для беларускіх студэнтаў, якія былі выгнаныя за палітычную дзейнасьць;

10.4. падтрымаць патрабаваньне працягнуць мандат офісу АБСЭ ў Менску;

10.5. яўна ўстрымацца ад прызнаньня выніку прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі”.

Асамблея заклікала ўсе палітычныя бакі Рады Эўропы і Эўрапейскага парлямэнту прыняць актыўныя меры ў падтрымку іх роднасных партый у Беларусі шляхам ўмацаваньня асабістага клопату пра зьняволеных лідэраў і членаў іх сем'яў, прадстаўленьня фінансавай падтрымкі для партый, і запрашэньня іх прымаць актыўны ўдзел у пасяджэньнях эўрапейскага боку на ўсіх узроўнях.

*27.01.2011*

## Пра Беларусь у Сэнаце ЗША

Сенатар Рычард Дурбін меў 25 студзеня выдатную прамову ў залі амэрыканскага Сенату, якую прысьвяціў тэме выбараў у Беларусі і іх наступстваў. (Гэта небывалая з’ява, бо амаль усе такія прамовы не чытаюцца поўнасьцю ў залі Сенату, а толькі падаюцца пісьмова ў
г.зв. Congressional Record)

Сенатар Дурбін літвускага паходжаньня. Ягоная маці прыехала ў Амэрыку ў 1911 годзе 2- гадовай дзяўчынкаю. Ён быў запрошаны прамовіць ў Сойме Літвы з нагоды 20-х угодкаў абароны парлямэнту Літвы перад савецкімі танкамі, якія ў студзені 1991 году мелі загад перапыніць аднаўленьне незалежнасьці і вярнуць Літву ў склад СССР. Гэткімі абаронцамі ў бальшыні былі звычайныя грамадзяне, сярод якіх бралі ўдзел і віленскія беларусы, а таксама некалькі дэпутатаў ад БНФ з Вярхоўнага Савету Беларусі. Некаторыя з віленскіх беларусаў пасьля атрымалі дзяржаўныя ўзнагароды за ўдзел у абароне, якая не прайшла бяз ахвяраў і вялікай колькасьці затрыманых. Мастак Алег Аблажэй з Вільні, якія нядаўна меў выставу ў Нью-Ёрку, распавёў, што і ён быў удзельнікам тых падзеяў і мае ўзнагароду.

Будучы ў Вільні, Сенатар Дурбін выкарыстаў нагоду адведаць суседнюю краіну – Рэспубліку Беларусь. Там, па ягоных словах, ён пабачыў крок назад у савецкія часы, крок назад у барбарства, якое ён бачыў у Музэі КДБ у Вільні. Толькі, на жаль, у Беларусі гэта не быў музейны паказ, гэта было праўдзівае жыцьцё. У Менску сп. Дурбін спаткаўся з апалягетам рэжыму – міністрам замежных справаў Мартынавым, які спрабаваў апраўдаць сфальшаваныя выбары і арышты апазыцыйных кандыдатаў, як дробную заганy маладой дэмакратыі, з чым Сенатар катэгарычна не нагадзіўся.

Пад час прамовы ў Сенаце сп. Дурбін меў выстаўлены побач партрэт вызьверанага Лукашэнкі з надпісам “Апошні дыктатар у Эўропе Аляксандр Лукашэнка”.

Асноўную частку свайго побыту ў Менску Сенатар Дурбін прысьвяціў спатканьням у амэрыканскім консуляце з роднымі арыштаваных кандыдатаў і актывістаў апазыцыі. Распавядаючы пра іх, Сенатар паказваў іх павялічаныя фотаздымкі. Гэта былі Сьвятлана Лябедзька, Таццяна Севярынец, сын Андрэя Саньнікава Канстанцін, ягоная маці Ала і цешча Люцына Халіп. Апошняя апекавалася 3- гадовым сынком Саннікава і Ірыны Халіп – Данілкам, бо абодва бацькі апынуліся за кратамі. Таксама было паказана фота жонкі Алеся Міхалевіча Міланы з маленькай дачкою на руках, іх старэйшая дачка засталася дома. Мілана расказала пра цяжкасьці пакрыць выдаткі на адвакатаў, пра ператрусы КДБ у іхнай хаце, пра немагчымасьць кантактаў з мужам, які таксама арыштаваны.

Сенатар Дурбін скончыў сваю прамову згадкаю пра санкцыі, якія Эўразьвяз і ЗША павінны прыняць супроць Лукашэнкі і ягоных прысьпешнікаў, і пра неабходнасьць дабіцца вызваленьня вязьняў. Ён сказаў: “Я заклікаю Урад Беларусі адразу і безумоўна вызваліць палітычных вязьняў. Той факт, што яны працягваюць пакутаваць у турме бяз кантактаў з роднымі і адвакатамі, бяз медычнай дапамогі, з’яўляецца зьдзекам і ганьбаю перад Эўропаю і сьветам. Гэтыя дзеяньні паказваюць роспач і страх дыктатара, улада якога мусіць быць выкінутая на сьметнік гісторыі”.

Раім нашым чытачам пайсьці на сайт www.durbin.senate.gov, і знайсьці там у архіве відэазапіс прамовы, паслухаць яе і выказаць Сенатару Дурбіну нашую ўдзячнасьць за падтрымку. На сайце ёсьць нумар тэлефону і магчымасьць пасласць кароткі email.

*Вячка Станкевіч*

## Слуханьні ў Сэнаце ЗША


**Натальля Каляда**

28 студзеня ў міжнародным камітэце Сэнату ЗША адбыліся слуханьні пра сытуацыю ў Беларусі і магчымую рэакцыю з боку Амэрыкі на брутальныя дзеяньні беларускіх уладаў ў адносінах да апазыцыі.

Грамадзянскую супольнасьць Беларусі на слуханьнях прадстаўляла Натальля Каляда, адна з кіраўніцаў “Свабоднага тэатру” і адна з тых, хто затрымліваўся на Плошчы. У інтэрвію “Свабодзе” Натальля сказала:

“Слуханьні былі абсалютна неверагоднымі, на маю думку, на такім узроўні яны прайшлі ўвогуле ўпершыню за гісторыю сучаснай Беларусі. Былі прадстаўнікі Дзярждэпартамэнту, памочнікі Хілары Клінтан, прадстаўнікі Нацыянальнага Дэмакратычнага інстытуту, Freedom House, сэнатары. Размова ішла толькі пра адно -- пра вельмі жорсткія санкцыі, пра тэрміновае вызваленьні ўсіх палітзьняволеных, правядзеньне новых прэзыдэнцкіх выбараў і аб прызнаньні тых, хто зараз знаходзіцца ў зьняволеньні, легітымным урадам Беларусі. Ва ўсякім разе пра гэта (апошняе –рэд.) гаварыла я. Амэрыканскі бок выказваўся за вельмі, падкрэсьліваю, вельмі жорсткія санкцыі. Выступаў сэнатар Дурбін, які на мінулым тыдні быў у Беларусі, расказаў пра тое, што ён бачыў, з кім сустракаўся. Гэта было каля 50 чалавек -- сваякі палітзьняволеных, тыя, каго арыштоўвалі. Паводле яго ўражаньняў, гэта нагадвае сталінскія часы.”

Томас Мелія, супрацоўнік апарату Дзяржсакратара, які таксама толькі што вярнуўся зь Менску, падзяліўся сваімі ўражаньнямі ад сустрэчы з афіцыйнымі прадстаўнікамі беларускага МЗС, дзе ён гаварыў аб хвалі міжнароднага абурэньня і непазьбежнасьці рэзкага адказу. Паводле яго словаў, “урадоўцы стаялі з шэрымі тварамі, зразумеўшы, што іх надзеі на аднаўленьне дачыненьняў зь міжнароднай супольнасьцю выпараюцца, як дым перад вачыма.”

# Зянон Пазьняк: “Рэжым Лукашэнкі праводзіць акупацыйную палітыку генацыду”

Старшыня КХП-БНФ Зянон Пазьняк зьвярнуўся з адкрытым лістом да Рады Эўрапейскага Зьвязу.



“Плян рэпрэсіяў рыхтаваўся задоўга да выбараў.”

“Цяпер у Беларусі ўжо другі месяц працягваецца хваля рэпрэсіяў супраць насельніцтва, распачатая рэжымам Лукашэнкі ў дзень выбараў прэзыдэнта 19-га сьнежня 2010 года, -- піша Зянон Пазьняк у ліцьце, поўны тэкст якога зьмешчаны на сайце “Народная партыя”. -- Плян рэпрэсіяў рыхтаваўся задоўга да выбараў. Лукашэнка заручыўся ў гэтым падтрымкай пэўных колаў Расеі і адначасна вёў перамовы пра “прагрэс” дэмакратыі зь міністрамі замежных справаў Эўразьвязу, пагаджаючыся на дэмакратызацыю некаторых бакоў выбарчага працэсу. Кандыдатам ад апазыцыі прадставілі радыё і тэлеэфір, але адначасна, за пяць дзён да выбараў, пачаўся жорсткі і рэпрэсіўны загон выбаршчыкаў на так званае “папярэдняе галасаваньне”. Выбарчыя камісіі былі складзеныя выключна з прадстаўнікоў рэжыму, і ў дзень галасаваньня адбыліся масавыя фальсіфікацыі выбараў. У рэальнасьці Лукашэнка не набраў патрэбную колькасьць галасоў і не перамог на выбарах” – перакананы Зянон Пазьняк.

Нагадваючы пра рэпрэсіі апошніх тыдняў, лідэр КХП-БНФ адзначае: “Хваля рэпрэсіяў, арыштаў, ператрусаў, допытаў і хапаньня людзей па ўсёй Беларусі разьлічана рэжымам на доўгі час і ставіць на мэце ліквідаваць нацыянальныя сілы грамадзянскай супольнасьці. Пастаўлена задача зьнішчыць сацыяльную актыўнасьць і разьвіцьцё інтэлектуальных нацыянальна сьвядомых групаў насельніцтва Беларусі, штурхнуць гэтых людзей у стан сацыяльнай дэградацыі, прымусіць займацца выключна выжываньнем і клопатамі аб фізычным існаваньні”.

“Беларусы цяпер адлучаныя ад атрыманьня адукацыі на роднай мове на ўзроўні школы і ўнівэрсытэту. Вернута камуністычная палітыка русыфікацыі. Пратэсты супраць такой палітыкі разглядающца рэжымам як антыдзяржаўная дзейнасьць.” На думку Зянона Пазьняка, “зьмест і мэтодыка гэтай хвалі перасьледу людзей у Беларусі вынікае з сутнасьці палітыкі антыбеларускага рэжыму Лукашэнкі, накіраванай на павольнае этнічнае вынішчэньне беларускай нацыі шляхам стварэньня ўмоваў для сацыяльнай дэградацыі і выміраньня пэўных групаў насельніцтва, ліквідацыі асобаў мэтадам рэпрэсіяў і тэрору. Антыдэмакратычная антыбеларуская палітыка, якую праводзіць рэжым Лукашэнкі, пачалася з 1994 года, адразу пасьля прыходу яго да ўлады пры садзеяньні савецкага КГБ. За гэты час былі спаленыя беларускія падручнікі для школ, практычна, ліквідаваная нацыянальная беларуская школа і адукацыя. Беларусы цяпер адлучаныя ад атрыманьня адукацыі на роднай мове на ўзроўні школы і ўнівэрсытэту. Вернута камуністычная палітыка русыфікацыі. Пратэсты супраць такой палітыкі разглядающца рэжымам як антыдзяржаўная дзейнасьць. Поўнасьцю ліквідаванае нацыянальнае беларускае тэлебачаньне і радыё, разбураныя беларускія нацыянальныя грамадзкія і ўрадавыя інстытуты, творчыя саюзы, беларускія выдавецтвы, беларускі друк, паралізаваная беларуская грамадзкая дзейнасьць, фундамэнтальная і гуманітарная навука. Адбылося рэзкае зьніжэньне якасьці адукацыі і адукацыйнага ўзроўню насельніцтва. Практычна, ліквідаваная ўнутраная і зьнешняя дапамога пацярпеламу ад радыяцыі насельніцтву Чарнобыльскай зоны, спынены ільготы і выплаты людзям за страту здароўя, занячышчаныя землі ўведзены рэжымам у сельскагаспадарчае выкарыстаньне, забруджаная радыёнуклідамі прадукцыя ідзе на ўнутраны рынак, а чыстая прадукцыя – на экспарт у Расею. Беларускую моладзь пасьля вучобы разьмяркоўваюць на працу ў радыяцыйныя зоны Чарнобыльскай катастрофы”.

“Улічваючы аўтарытарны і абсалютны характар улады Лукашэнкі, у Беларусі практычна немагчыма ўзбудзіць супраць яго справу”. Далей старшыня КХП-БНФ адзначае: “Дзеяньні антыдэмакратычнага, антыбеларускага рэжыму Лукашэнкі ў Беларусі, апісаныя мной у гэтым лісьце, падпадаюць пад ацэнку і юрысдыкцыю артыкула №127 (Генацыд) Крымінальнага Кодэксу Рэспублікі Беларусь, а таксама адпавядаюць міжнародным азначэньням генацыду ў дачыненьні да палітыкі і дзейнасьці Аляксандра Лукашэнкі. Улічваючы аўтарытарны і абсалютны характар улады Лукашэнкі, у Беларусі практычна немагчыма ўзбудзіць супраць яго справу па артыкуле 127 (Генацыд), паколькі прызначэньне і дымісія Генэральнага пракурора, усіх кіраўнікоў юстыцыі і судоў -- залежаць ад самога Лукашэнкі. Фармальна ня можа ўзбудзіць справу і Міжнародны Крымінальны Суд (МКС) у Гаазе, паколькі Рэспубліка Беларусь не падпісала Рымскі Статут і дзяржавай-удзельнікам МКС не зьяўляецца. Вядома, аднак, што хоць МКС не ўваходзіць у афіцыйныя структуры Арганізацыі Аб’еднаных Нацыяў, але, тым ня менш, па прадстаўленьні Рады Бясьпекі ААН можна ўзбуджаць справы і супраць асобаў тых краін, што не зьяўляюцца дзяржавамі-удзельніцамі МКС. Прэцэдэнт такі ўжо быў. Мэханізм існуе”, -- лічыць З. Пазьняк.

Зьвяртаючыся да міністраў краінаў Эўразьвязу, Зянон Пазьняк піша: “прашу разглядзець на паседжаньні Рады Эўрапейскага Зьвязу 31 студзеня гэтага году магчымасьць прыняцьця рашэньня аб звароце ў Раду Бясьпекі ААН на прадмет прадстаўленьня ў Міжнародны Крымінальны Суд прапановы (рэзалюцыі) аб узбуджэньні справы супраць грамадзяніна Рэспублікі Беларусь Лукашэнкі Аляксандра Рыгоравіча па абвінавачваньні – “генацыд”, стварэньня ўмоў для дэградацыі і выміраньня групаў насельніцтва беларусаў і асобных грамадзян. Зьвяртаю ўвагу, што ў сытуацыі, якая існуе, рэальнай магчымасьцю ліквідаваць антынародны рэжым у Беларусі ёсьць арышт узурпатара. У выпадку ўзбуджэньня справы Міжнародным Крымінальным Судом, дні рэжыму будуць палічаныя. Беларусы самы арыштуюць яго і прывязуць у Гаагу”.

“Лукашэнка не валодае больш законным правам балятавацца на выбарах, выбары мусяць быць бяз Лукашэнкі”. Гаворачы пра рэзалюцыю Эўрапарлямэнту ад 20 студзеня, Пазьняк удакладняе, што “Лукашэнка ня меў права балатавацца трэці і чацьверты разы на прэзыдэнта Беларусі (рэфэрэндум 2004 года пра трэці тэрмін Лукашэнкі быў незаконны, сфальшаваны і не прызнаны Міжнароднай супольнасьцю). Таму заклік Эўрапарляманту да новых выбараў у Беларусі мусіў бы быць удакладнены тым, што Лукашэнка не валодае больш законным правам балятавацца на выбарах, выбары мусяць быць бяз Лукашэнкі".

“Гэты рэжым, палітыка, улада і “лідар” – антыбеларускія”.

У завяршэньні свайго адкрытага ліста ў Раду Эўрапейскага Зьвязу Зянон Пазьняк адзначае: “Рэжым Лукашэнкі праводзіць антыдэмакратычную, тыпова акупацыйную антыбеларускую палітыку паўзучага генацыду, сьвядома накіраваную супраць культурнага існаваньня беларускай нацыі. Зважаючы на гэта, мы прасілі б не карыстацца тэрмінамі “беларускі рэжым”, “беларуская палітыка”, “беларуская ўлада”, “беларускі лідар” у дачыненьні да Лукашэнкі, тэрмінам “санкцыі супраць Беларусі” і т.п., бо гэта зьневажае пачуцьці дэмакратычных беларусаў і вольных людзей. Гэты рэжым, палітыка, улада і “лідар” – антыбеларускія, гэбоўскія, антынародныя. Вольныя беларусы не называюць гэты чужы рэжым “беларускім”. Мы спадзяемся на дзейныя рашэньні Рады Эўрапейскага Зьвязу ў пытаньні дачыненьняў з антыбеларускім рэжымам і з грамадзянскай супольнасьцю Беларусі”, -- завяршае свой ліст старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі Зянон Пазьняк.

*Паводле Радыё Свабода*
*25.01.2011*

## Някляева і Халіп выпусьцілі з турмы пад хатні арышт

КДБ зьмяніў меру стрыманьня ў адносінах да Ірыны Халіп, Уладзімера Някляева і Сяргея Вазьняка.

Някляева і Халіп памясьцілі пад хатні арышт з утрыманьнем пад вартаю, а Вазьняка выпусьцілі пад падпіску аб нявыезьдзе.

Першай прывезьлі дадому Ірыну Халіп. Хатні арышт азначае таксама, што Ірыне нельга падыходзіць да тэлефона. Сын Данік будзе зараз пры маме, але Ірына зможа быць зь ім толькі дома – шпацыры зьмешчаным пад хатні арышт забароненыя.

Уладзіміра Някляева супрацоўнікі КДБ прывезьлі дадому позна ўвечары. Яны папрасілі сяброў Някляева пакінуць кватэру і дазволілі застацца дома толькі жонцы Вользе.

*29.01.2011*

## Ля будынку Рады Эўразьвязу прайшоў пікет у падтрымку палітвязьняў Беларусі




Пікет быў арганізаваны 31 студзеня, ў дзень, калі адбывалася пасяджэньне Рады Эўразьвязу, на якім абмяркоўвалася беларускае пытаньне.

У дэманстрацыі ўдзельнічалі прадстаўнікі беларускай дыяспары з Бэльгіі і Польшчы, а таксама Зьміцер Бародка, давераная асоба былога кандыдата на прэзыдэнта Андрэя Саньнікава.

Дэманстранты стаялі з плякатамі "Свабоду палітзьняволеным", "Спыніце тэрор у Беларусі".

## Міжнародная Кааліцыя за Беларусь

Цэнтральна і Усходне Эўрапейская Кааліцыя (CEEC) у Вашынгтоне прадстаўляе 18 асноўных этнічных арганізацыяў, сярод якіх і Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА).

Кааліцыя выслала 24 студзеня 2011 Адкрыты ліст з падзякаю Дзяржсакратару ЗША Гілары Клінтан за ейную падтрымку свабоды ў Беларусі і з просьбаю працягваць рашучую і эфектыўную дзейнасьць у дачыненьні да рэжыму Лукашэнкі.

У лісьце коратка згадваюцца падзеі 19 сьнежня і далейшыя рэпрэсіі. Аўтары ліста заклікаюць Гілары Клінтан спрыяць таму, каб пашырыць забарону на візы для чыноўнікаў рэжыму, увядзеньню эканамічных санкцый супраць рэжыму, спрашчэньню парадку выдачы візаў для звычайных грамадзянаў Беларусі, аказаць дапамогу студэнтам, адлучаным з навучальных установаў за удзел у дэманстрацыі.

Ліст быў распаўсюджаны па розных дзяржаўных установах і па офісах Кангрэсу. Падпісалі яго прэзыдэнт Польска-Амэрыканскага Кангрэсу Фрэнк Спула, Міхаіл Саўкіу ад Украінскага кангрэсавага Камітэту і Карл алтау ад Супольнга Балтыйска-Амэрыканскага Камітэту, а таксама Алеся Кіпель ад БАЗА, якая доўгі час прадстаўляе беларусаў у Кааліцыі.

## ЗША ўвялі санкцыі супроць рэжыму Лукашэнкі

Вашынгтон абвясціў аб увядзеньні новых санкцыяў супраць Беларусі ў адказ на разгон пасьлявыбарчых пратэстаў 19 сьнежня ў Менску і перасьлед грамадзянскіх актывістаў.

Новыя санкцыі, уведзеныя ўсьлед за аналягічным крокам Эўразьвязу, прадугледжваюць пашырэньне колькасьці беларускіх урадоўцаў, на якіх распаўсюджваюцца візавыя і фінансавыя абмежаваньні. Уезд у ЗША будзе закрыты для тых асобаў і членаў іх сем'яў, хто датычны да разгону акцыі пратэсту 19 сьнежня ў Мінску і наступных рэпрэсіяў у Беларусі.

ЗША таксама аднавілі эканамічныя санкцыі ў дачыненьні да дзьвюх філіяў "Белнафтахіму" – "Полацак Шкловалакно" і "Лідзкая Лакафарба".

ЗША настойваюць на неадкладнымвызваленьні ўсіх затрыманых і зьняцьці зь іх усіх абвінавачаньняў, спыненьні рэпрэсій у дачыненьні да грамадзянскай супольнасьці, незалежных СМІ і палітычнай апазыцыі, а таксама павазе права на выражэньне палітычных поглядаў, свабоду СМІ і разьвіцьцё грамадзянскай супольнасьці.

"Прынятыя меры не накіраваны супраць беларускага народу. Злучаныя Штаты плянуюць павялічыць сёлета як мінімум на 30% дапамогу беларускай грамадзянскай супольнасьці, незалежным СМІ і дэмакратычным палітычным партыям", – сказаў прэсавы прадстаўнік Дзяржэдэпартамэнту ЗША Філіп Кроўлі. Ён заявіў, што ЗША дзейнічаюць у цеснай каардынацыі з ЭЗ і іншымі партнэрамі ў дачыненьні да сытуацыі ў Беларусі і адказу на падзеі, якія адбыліся.

*31.01.2011*

# Рада Эўразьвязу прыняла Рэзалюцыю па Беларусі

***У Рэзалюцыі, прынятай 31 студзеня міністрамі замежных справаў краін ЭЗ, агаворваюцца ўмовы адмены ўведзеных абмежавальных захадаў у дачыненьні да беларускіх уладаў. Прапануем вам поўны тэкст гэтага важнага дакумэнту:***

**РАДА ЭЎРАПЕЙСКАГА ЗЬВЯЗУ**
**Высновы Рады ЭЗ па Беларусі**
**Брусэль, 31 студзеня 2011 году**

**Рада прыняла наступныя рашэньні:**

1. Прымаючы пад увагу папярэднія рашэньні Рады па Беларусі і, у прыватнасьці, рашэньні, прынятыя ў кастрычніку 2010 году, заяву Вярхоўнай прадстаўніцы ЭЗ па замежных справах і палітыцы бясьпекі Кэтрын Эштан ад 20 сьнежня, а таксама іншыя заявы ЭЗ датычна прэзыдэнцкіх выбараў 19 сьнежня 2010 году і наступным гвалтам, Рада глыбока шкадуе, што, згодна з ацэнкай БДІПЧ АБСЭ, прэзыдэнцкія выбары прадэманстравалі, што Беларусі яшчэ трэба будзе правесьці значную работу, каб выканаць свае абавязаньні перад АБСЭ. У прыватнасьці, выбарчы працэс істотна пагоршыўся падчас падліку галасоў, падрываючы тым самым паляпшэньне працэсу правядзеньня выбараў.

2. Рада выказвае асаблівае шкадаваньне з той нагоды, што ноч пасьля выбараў была азмрочаная гвалтам з боку беларускіх уладаў. Яна рашуча асуджае арышт многіх кандыдатаў у прэзыдэнты, сотні актывістаў, журналістаў і прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасьці, а таксама далейшыя затрыманьні і перасьлед апазыцыі, незалежных СМІ і грамадзянскай супольнасьці па палітычных матывах.

3. Рада чарговы раз пацьвярджае свае патрабаваньні неадкладнага вызваленьня людзей, затрыманых па палітычных матывах пасьля выбараў 19 сьнежня, і іх рэабілітацыі. Рада настойліва заклікае Беларусь паважаць правы зьняволеных і іх сем'яў, надаючы асаблівую ўвагу дзецям затрыманых, а таксама права на юрыдычнае прадстаўніцтва. Акрамя таго, яна падкрэсьлівае неабходнасьць забесьпячэньня доступу чальцоў сям'і да затрыманых. Рада заклікае беларускія ўлады спыніць перасьлед дэмакратычных сіл, незалежных СМІ і прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасьці, студэнтаў, а таксама пакласьці канец любым адміністрацыйным перасьледам або дыскрымінацыі асоб, якія рэалізуюць сваё права на свабоду выказваньня меркаваньняў і свабоду сходаў, у тым ліку лідэраў апазыцыйных партый.

4. ЭЗ выказвае шкадаваньне з нагоды рашэньня беларускіх уладаў не падаўжаць мандат офісу АБСЭ ў Менску. ЭЗ перакананы, што мандат офісу АБСЭ яшчэ ня выкананы, і патрабуе неадкладнай адмены гэтага рашэньня беларускіх уладаў.

5. У сьвятле апошніх падзей і зьменаў, якія адбыліся, Рада прыняла рашэньне ўвесьці абмежаваньні на паездкі, а таксама замарозіць актывы асобаў, адказных за фальсыфікацыю прэзыдэнцкіх выбараў 19 сьнежня 2010 году і наступны гвалтоўны разгон дэмакратычнай апазыцыі, грамадзянскай супольнасьці і прадстаўнікоў незалежных СМІ. Рада таксама прыняла рашэньне аб аднаўленьні абмежаваньняў на паездкі пэўных асобаў у Беларусі, уведзеных у сувязі з выбарамі ў 2004 і 2006 гадоў і наступнымі рэпрэсіямі супраць грамадзянскай супольнасьці і дэмакратычнай апазыцыі, дзеяньне якіх было прыпыненае 13 кастрычніка 2008 году ў мэтах стымуляваньня прагрэсу. Гэтыя абмежавальныя захады і сьпіс асобаў, супраць якіх накіраваны санкцыі, будзе заставацца адкрытым і пастаянна пераглядацца. Рада падкрэсьлівае, што вызваленьне і рэабілітацыя ўсіх асобаў, затрыманых па палітычных матывах, будзе ключавым момантам у гэтым пляне. Гэта, нараўне з прагрэсам у кірунку далейшай рэформы Выбарчага кодэксу, свабоды выказваньня меркаваньняў і свабоды СМІ, свабоды сходаў і асацыяцыяў, зробіць магчымай адмену абмежавальных захадаў.

6. Эўрапейскі зьвяз па-ранейшаму цьвёрда прытрымліваецца палітыкі ўмацаваньня супрацоўніцтва з беларускім народам і грамадзянскай супольнасьцю. У сувязі з гэтым ЭЗ працуе над захадамі па аказаньні тэрміновай падтрымкі рэпрэсаваным і палітвязьням, членам іх сем'яў, а таксама грамадзянскай супольнасьці. ЭЗ таксама перагледзіць дапамогу Беларусі, накіраваную на дапамогу насельніцтву, у мэтах далейшага ўмацаваньня падтрымкі грамадзянскай супольнасьці, у прыватнасьці няўрадавых арганізацый і студэнтаў, у тым ліку праз Канфэрэнцыю міжнародных донараў, якая пройдзе 2 лютага ў Варшаве.

7. Рада нагадвае пра тое, што яна надае вялікае значэньне разьвіцьцю міжнародных кантактаў з Беларусьсю на карысьць беларускага народу ў цэлым. Рада чакае пачатку перамоваў па спрашчэньні візавага рэжыму і заключэньня зь Беларусьсю дамовы аб рэадмісіі, як толькі скончацца перамовы. Да заключэньня гэтых пагадненьняў, ЭЗ будзе заахвочваць аптымальнае выкарыстаньне цяперашняга гнуткага візавага рэжыму, у прыватнасьці, магчымасьць для дзяржаваў-удзельніц ЭЗ адмяніць або скараціць кошт візаў для асобных катэгорый грамадзян.

8. ЭЗ па-ранейшаму прытрымліваецца палітыкі ўзаемадзеяньня, у тым ліку праз дыялёг і ўдзел у праекце "Ўсходняга партнэрства", і нагадвае, што ЭЗ пасьлядоўна прапаноўваў паглыбіць свае адносіны з Беларусьсю. Рада чарговы раз пацьвярджае, што гэткае паглыбленьне залежыць ад прагрэсу ў павазе прынцыпаў дэмакратыі, вяршэнства закону і правоў чалавека з боку беларускіх уладаў. ЭЗ па-ранейшаму адкрыты для разьвіцьця двухбаковых адносінаў зь Беларусьсю, калі беларускія ўлады дакажуць сваю гатоўнасьць выконваць гэтыя прынцыпы. Рада будзе рэгулярна пераглядаць сытуацыю ў Беларусі і гатова разгледзець пытаньне аб далейшых мэтанакіраваных мерах па ўсіх галінах супрацоўніцтва, дзе гэта патрабуецца".

# Міжнародная донарская канфэрэнцыя "Салідарныя зь Беларусьсю"



2 лютага ў Варшаве прайшла донарская канфэрэнцыя, прадстаўнічы ўзровень якой можна смела назваць унікальным – яшчэ ніколі дзеля беларускага пытаньня не зьбіралася такое шырокае кола афіцыйных прадстаўнікоў і кіраўнікоў шэрагу фундацый і грамадскіх арганізацый.

4 краіны былі прадстаўленыя кіраўнікамі знешнепалітычных ведамстваў – міністр замежных спраў Польшчы Радаслаў Сікорскі, міністр замежных спраў Эстоніі Урмас Паэт, міністр замежных спраў Румыніі Тэадор Баконскі, міністр замежных спраў Швецыі Карл Більд.

Шэраг краінаў былі прадстаўлены намесьнікамі міністраў замежных справаў і кіраўнікамі дыпляматычных місіяў у Польшчы.

Шырокі ўдзел у канферэнцыі ўзялі прадстаўнікі фундацый і грамадскіх арганізацый, у тым ліку Хельсінскі фонд правоў чалавека, фундацыя Стэфана Баторыя, фонд імя Генрыха Бёлля, фонд Конрада Адэнаўэра, фонд Маршала, фонд Еўразія, NED, NDI, IRI і іншыя.

Беларускую палітычную апазіцыю прадстаўлялі сябры Нацыянальнай Рады – Ева Некляева, Аляксандр Мілінкевіч, Дзяніс Садоўскі, Віктар Івашкевіч, Аляксей Янукевіч і іншыя; праваабаронцы Алесь Бяляцкі і Іна Кулей; кіраўнікі беларускіх моладзевых арганізацый – міжнародны сакратар Маладога Фронту Валеры Мацкевіч, старшыня Руху "Маладая Беларусь" Зьміцер Касьпяровіч, намесьнік старшыні "Маладой Беларусі" Цімафей Дранчук.

Прамаўляючы падчас адкрыцьця канфэрэнцыі міністар замежных справаў Польшчы Радаслаў Сікорскі выказаў салідарнасьць Польшчы і ўсёй Эўропы з дэмакратычнымі сіламі Беларусі і, зьвяртаючыся да кіраўніка Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, падкрэсьліў:

"Спадар прэзыдэнт Лукашэнка, вы прайграяце. Нават у краінах, якія назвалі апошнія выбары ўнутранай справай Беларусі, ніхто ня верыць у назвы вынік – 80% . Вашыя мэтады не знаходзяць месца ў сучаснай Эўропе. Раней ці пазьней вы будзеце вымушаныя ўцякаць ад сваіх суграмадзянаў у краіны, дзе стандарты яшчэ ніжэйшыя, чым тыя, якія вы самі ўсталёўваеце ў сябе. У Менску таксама трэба будзе трымаць самалёт, падрыхтаваны да нечаканага вылету".

Камісар Эўразьвязу ў пытаньнях пашырэньня Штэфан Фюле паведаміў, што дапамога Эўразьвязу беларускай грамадзянскай супольнасьці, у тым ліку на стыпэндыяльныя праграмы ў падтрымку незалежных мэдыяў павялічыцца ў 4 разы - да 15.6 мільёнаў эўра ад цяперашніх 4.0 мільёнаў. Грошы будуць выдаткаваныя на падтрымку сваякоў затрыманых па палітычных прычынах, а таксама на падтрымку грамадзянскай супольнасці, уключаючы студэнтаў і незалежныя медыя.



Аляксандар Мілінкевіч, які прамаўляў ад імя ўсёй беларускай дэлегацыі, заклікаў Эўразьвяз да агульнай пазыцыі ў размовах з афіцыйным Менскам.

Міністар замежных справаў Швэцыі Карл Більт заявіў, што на гэтыя мэты ягоная краіна прызначыць сёлета 7 мільёнаў эўра. Значную суму на падтрымку беларускай грамадзянскай супольнасьці выдаткуюць таксама Данія, Вялікабрытанія і нават Румынія.

Мэта міжнароднай канфэрэнцыі донараў "Салідарныя зь Беларусьсю" – стварыць адмысловы фонд падтрымкі дэмакратыі ў Беларусі, донарамі якога былі б усе зацікаўленыя краіны, прычым ня толькі Эўразьвязу.

*02.02.2011*

# "Такой хвалі ахвяраваньняў, падтрымкі, дапамогі яшчэ не было"

Так сьцьвярджае юрыст Дар'я Каткоўская- ініцыятарка беспрэцэдэнтнай акцыі салідарнасьці з затрыманымі ўдзельнікамі акцый пратэсту і іх сем'ямі. У сваім блогу Дар'я абвясьціла спачатку пра збор інфармацыі пра лёс затрыманых. Потам пачался праца па зборы і дастаўцы асуджаным неабходных рэчаў. Валантэры арганізавалі перадачы для кожнага, каго пасадзілі на 10 – 15 сутак, перадавалі падарункі і віншаваньні на Новы год. Пасьля адсідкі людзям дапамагалі аплаціць штрафы і рахункі за знаходжаньне ў ізалятарах. Матэрыяльна дапамаглі прыкладна пяці сотням чалавек. Дар'я Каткоўская распавяла:

" Былі выпадкі, калі людзі прыходзілі, запаўнялі анкету, каб проста праваабаронцам арганізацыям трапіла інфармацыя, і казалі: "Мне ня трэба грошы, грошы ў мяне ёсьць, я проста хацеў гэты інфармацыю данесьці".

Сакратар управы БНФ Сяргей Семянюк кажа, што праца працягваецца і дагэтуль:

"Асноўная дапамога зараз аказваецца тым, хто губляе працу, вучобу ...

Некаторыя з тых, хто сядзеў на сутках, да нас яшчэ прыходзяць за дапамогай, але гэта адзінкі. Асноўная дапамога зараз аказваецца тым, хто губляе працу, вучобу. Даем інфармацыю, куды лепш зьвяртацца, якія скаргі пісаць, дзе лепш шукаць юрыстаў, якія кваліфікавана дапамогуць гэта зрабіць. Стараемся таксама падтрымліваць сувязь са сваякамі тых, хто сядзіць у СІЗА КДБ і нейкім чынам спрыяць, дапамагаць перадаваць перадачы, пералічваць сродкі на іх рахункі"

Сяргея Семянюка вельмі ўразіла тое, што адгукнуліся людзі з усіх куткоў Беларусі, тэлефануюць, выказваюць падтрымку на словах, пытаюцца, чым яны могуць са сваіх гарадоў дапамагаць.

"Днямі ў Горадні таксама абвесьцілі збор сродкаў для дапамогі сям'і Аляксандра Кіркевіча, якога пасадзілі ў СІЗА. Атрымліваецца, што ня толькі арганізавана людзі могуць дапамагаць, але спантанна арганізоўваюцца лякальныя групы людзей, як было, напрыклад, на філялягічным факультэце БДУ. Усе тыя, хто адседзеў на плошчы, да нас па дапамогу не прыходзілі, таму што самі студэнты арганізаваліся і ўсю неабходную дапамогу аказалі".

Жонка былога кандыдата ў прэзыдэнты Алеся Міхалевіча Мілана, якая засталася з двума маленькімі дзецьмі, кажа, што падтрымка людзей вельмі дапамагае і маральна падтрымлівае:

"Мы не адны. Дапамагаюць, падтрымліваюць і знаёмыя, і незнаёмыя людзі. Я ня ведаю, як людзям дзякаваць, таму што часам народ дапамагае, штосьці передае праз кагосьці, і ў мяне праблема, як народу падзякаваць за гэта ўсё, асабліва калі гэта незнаёмыя людзі".

Такая салідарнасць — своеасаблівы адказ беларускага грамадзтва на жорсткасць уладаў, кажа Дар'я Каткоўская:

"У гэтай сытуацыі хваля ахвяраваньняў, падтрымкі, дапамогі мяне вельмі ўразіла і парадавала. Людзі кансалідаваліся і змаглі шмат зрабіць. Я раней такога не памятаю, таму я вельмі ўзрушаная. Тыя, хто працуе побач са мной, таксама кажуць, што такой хвалі падтрымкі, менавіта і грашовай, і чалавечым рэсурсам, раней ніколі не было. Салідарнасьць ёсьць вельмі вялікая".

*Паводле Радыё Свабода*
*05.02.2011*

# Лукашэнка ўзнагародзіў карнікаў за зьбіццё людзей 19 сьнежня

Лісты падзякі за подпісам Аляксандра Лукашэнкі. былі ўручаны пяці адказным супрацоўнікам менскай міліцыі, якая брала дзейсны ўдзел у разгоне дэманстрацыі на Плошчы Незалежнасьці.

Падчас сустрэчы прадстаўнікоў выканаўчай ўлады Менску з першым намеснікам кіраўніка адміністрацыі Лукашэнкі Аляксандрам Радзьковым ўзнагароды, як паведаміў аддзел інфармацыі і грамадскіх сувязей ГУУС Менгарвыканкама, «атрымалі намеснік начальніка ГУУС Менгарвыканкама палкоўнік міліцыі Ігар Яўсееў, камандзір палка міліцыі спецыяльнага прызначэння (ПМСП) ГУУС палкоўнік міліцыі Аляксандр Лукомскі, начальнік Менскага гарадскога ўпраўлення Дэпартамента аховы МУС палкоўнік міліцыі Віктар Скурат, намеснік начальніка аддзела комплектавання ўпраўлення ідэалагічнай работы і кадравага забеспячэння ГУУС маёр міліцыі Сяргей Іваноў і камандзір роты баявога і тэхнічнага забеспячэння ПМСП маёр міліцыі Раман Кадзін».

"У гэты адказны гістарычны перыяд мне важна абаперціся на падтрымку такіх, як вы, - сапраўдных патрыётаў, неабыкавых і адданых людзей з гарачымі сэрцамі. Дзякуй Вам за грамадзянскую мужнасць і актыўную жыццёвую пазіцыю", - гаворыца ў пасланні дыктатара сваім апрычнікам.



*09.02.2011*

# Кангрэс Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

13 лютага 2011 у грамадзкай залі пры Царкве Маці Божай Жыровіцкай у Нью Брансвіку адбыўся Надзвычайны Кангрэс Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА). Галоўная управа БАЗА склікала Кангрэс з мэтаю разгледзець і прыняць зьмены ў дзеючы Статут Згуртаваньня. Рашэньне аб унясеньні зьменаў, якія неабходныя для дзейнасьці БАЗА ў сучасных умовах, прыняў папярэдні чарговы Кангрэс у 2009 годзе, Тады была створаная адмысловая Статутовая камісія, якая падрыхтавала праект зьменаў і ён быў вынесены на абмеркаваньне Надзвычайнага Кангрэсу.

Удзельнікі Кангрэсу ўважліва паставіліся да свайго абавязку, шмат дыскутавалі і ў выніку амаль усе прапановы Статутовай камісіі былі прынятыя і новы Статут уваходзіць у сілу з гэтага дня. Далей Камісія павінна падрыхтаваць новы тэкст Статуту з унесенымі зьменамі і ён будзе дасланы ў структуры БАЗА.

На Кангрэсе былі таксама абмеркаваныя і прынятыя яшчэ два важныя дзеля арганізацыйнай дзейнасьці БАЗА дакумэнты – Працэдура прыняцьця новых сяброў БАЗА і Парадак пераліку сродкаў ад Аддзелаў і Гурткоў у Галоўную управу.

Прыняцьце ўсіх гэтых важных арганізацыйных дакумэнтаў патрабавала шмат увагі і часу (прыблізна 4 гадзіны), таму Галоўная управа БАЗА і арганізавала правядзеньне адмысловага Надзвычайнага Кангрэсу, каб не ўскладняць гэтымі пытаньнямі чарговы звычайны справаздачна – выбарчы Кангрэс, які павінен адбыцца сёлета ў траўні.

Дэлегаты Кангрэсу згадалі і пра тое, што ён праходзіць у час, калі на нашай Бацькаўчыне – у Беларусі адбываюцца трывожныя падзеі. Рэжым Лукашэнкі парцягвае жорсткі перасьлед удзельнікаў апазыцыйнага руху, за кратамі знаходзяцца палітычныя зьняволеныя. У іх падтрымку Кангрэс прыняў адмысловую Заяву.

*Ганна Сурмач*

# З дзейнасьці Вашынгтонскага гуртка БАЗА

12 лютага адбылося чарговае паседжаньне Вашынгтонскага гуртка БАЗА, на якім была абмеркавана дзейнасьць за апошнія тры месяцы, пераабрана кіраўніцтва гуртка, а таксама ўзгоднены план дзеяньняў на бліжэйшы час.

Са справаздачай выступіла старшыня гуртка Алеся Кіпель. Шмат падзеяў адбылося ў Вашынгтоне апошнім часам, большасьць якіх была звязана з прэзыдэнцкімі выбарамі ў Беларусі.

8 сьнежня прадстаўнік гуртка прысутнічаў на сустрэчы з беларускім палітолягам Віталём Сіліцкім, якая ладзілася Carnegie Endowment for International Peace. Прадстаўнік гуртка таксама сустрэўся с рэдактарам "Нашай Нівы" А. Дынько, якому распавёў аб дзейнасьці БАЗА ў Вашынгтоне. 10 снежня, у Сусьветны дзень правоў чалавека, у салідарнасьць з праваабаронцамі Кітаю, сябра гуртка паклаў бел-чырвона-белыя кветкі да Мемарыяла ахвярам камунізму. Менавіта ў гэты дзень Нобэлеўскую прэмію міру павінен быў атрымаць Liu Xiaobo, які да гэтага часу застаецца арыштаваным у Кітаю.

19 сьнежня сябры гуртка арганізавалі пратэст перад беларускай амбасадай ў Вашынгтоне. Пратэст пачаўся а 1-ай гадзіне апоўдні, калі ў Беларусі зачыніліся вучасткі для галасаваньня і людзі выйшлі на Кастрычніцкую плошчу ў Менску. Супрацоўнікі амбасады спрабавалі спыніць дэманстрацыю, выклікаўшы паліцыю. Відаць яны забыліся, што знаходзяцца ў ЗША, дзе права на мірны пратэст ахоўваецца Канстытуцыяй. У той самы час, сябра гуртка назіраў за ходам галасаваньня ў памяшканьні амбасады. На працягу дня усё было вельмі прыстойна, але калі надышоў час падліку галасоў, супрацоўнікі амбасады не далі мажлівасьці назіральніку сачыць за падлікам. Увогуле, 19 сьнежня галасаваць прыйшло толькі 29 чалавек, амаль палову з іх складалі супрацоўнікі амбасады і члены іх сем'яў. Абвешчаныя пазьней вынікі паказалі, што 50% галасоў было аддана за Лукашэнку.

Сябры гуртка даслалі Калядныя віншаваньні ўплывовым амерыканскім калегам, якія падтрымліваюць демакратызацыю Беларусі, а таксама паштоўкі салідарнасьці палітвязьням.

6 студзеня прадстаўнікі гуртка прымалі ўдзел у дыскусіі, арганізаванай German Marshall Fund. З прамовамі выступілі Ірына Красоўская і дырэктарка беларускага "Вольнага Тэатра" Натальля Каляда. У той жа дзень сябры гуртка сустрэліся з дзяржсакратаркай Гілары Клінтан. Увечары Ірына Красоўская арганізавала прыняцьцё ў гонар Натальлі Каляды і вязьняў Акрэсьціна, у якім, акрамя беларусаў, узялі ўдзел амерыканскія палітыкі і грамадзкія дзеячы. На наступны дзень Натальля Каляда і сябры гуртка сустрэліся з супрацоўнікамі кангрэсавых офісаў, якім распавялі пра выбары 19 сьнежня.

13 студзеня, насупраць беларускай амбасады, актывісты Вашынгтонскага гуртка ладзілі дэманстрацыю салідарнасьці з палітычнымі вязьнямі. Яны паспрабавалі перадаць супрацоўнікам амбасады ліст с патрабаваньнем вызваліць затрыманых 19 сьнежня, а таксама хлеб - сымбаль салідарнасьці з тымі, хто знаходзіцца за кратамі. Супрацоўнік амбасады прыняў дэзлегацыю і ліст, але хлеб узяць адмовіўся. Акцыю асьвятлялалі Радыё "Свабода" , "Голас Амерыкі" і Charter 97.

17 студзеня сябры гуртка прысутнічалі на імпрэзе ў J Theatre, прысьвечанай салідарнасьці зь Беларусьсю, а 19 студзеня гурткоўцы ўзялі ўдзел у пратэсьце перад офісам Беларусі ў ААН у Нью-Ёрку. Акцыя ладзілася "Вольным Тэатрам" сумесна з Amnesty International і БАЗА.

27 студзеня сябры гуртка прысутнічалі на слуханьнях па Беларусі ў Сэнаце ЗША. БАЗА працягвае працу ў кааліцыі па стварэньні Музею амерыканскіх народаў. 9 лютага сябры Вашынгтонскага гуртка ўзялі ўдзел у мерапрыемстве, якое ладзілася з гэтай нагоды ў Кангрэсе ЗША.

Сябры ўхвалілі справаздачу Алесі Кіпель і пасьля слуханьня справаздачы скарбніцы, пераабралі кіраўніцтва гуртка ў наступным складзе: старшыня - Алеся Кіпель, сакратарка - Ірына Аскірка, скарбніца - Алеся Сёмуха.

Былі абмеркаваныя пляны дзейнасьці на бліжэйшы час, куды ўвайшлі падтрымка адноўленага "Акта аб Дэмакратыі ў Беларусі", прапанаванага кангрэсмэнам Крысам Сьмітам, сьвяткаваньне Дня Волі ды акцыі салідарнасьці з палітвязьнямі ў Беларусі. Было таксама ўхвалена рашэньне аб адлічэньні сродкаў на Галоўную Управу БАЗА.

*Вячаслаў Бортнік*

# Сэнатар Маккэйн: «Лукашэнку чакае такі ж лёс, як лідэраў Блізкаўсходніх краін»



**Сэнатар Джон Маккэйн**

10 амэрыканскіх сэнатараў і кангрэсмэнаў з дэлегацыі ЗША, якая накіроўвалася на Канфэрэнцыю ў справах бясьпекі ў Мюнхэне, зрабілі прыпынак у Вільні, дзе сустрэліся з кіраўніцтвам Літвы, са студэнтамі ЭГУ, з прадстаўнікамі беларускай палітычнай апазыцыі і грамадзянскай супольнасьці.

Якім можа быць новы падыход да беларускага рэжыму, як ЗША могуць выказаць салідарнасьць з дэмакратычнымі сіламі – на гэтыя ды іншыя пытаньні адказалі сэнатары Джон Маккэйн і Джо Лібэрман.

"Мы, ЗША і Эўразьвяз, спрабавалі прымяніць новы падыход, – зазначыў сэнатар Джо Лібэрман. – Новы падыход быў у тым, каб уцягваць рэжым у супрацоўніцтва і адчыніць краіну. Але гэта былі памылковыя пажаданьні, што паказалі выбары 19 сьнежня. Лукашэнка паказаў вельмі выразна, што ён ня хоча быць уцягнутым у агульнаэўрапейскія працэсы. І гэта пакідае за намі толькі адну магчымасьць – рабіць тое, што мы і робім. Вось чаму былі ўведзеныя санкцыі з боку ЗША і Эўразьвязу, вось чаму будзе павялічвацца дапамога беларускай апазыцыі.

Як і ў выпадку Эгіпту, лёс Беларусі будзе вырашацца народам Беларусі. Але народу можа спатрэбіцца дапамога, каб атрымаць сапраўдны шанец выказваць свае жаданьні".

"Спадар Лукашэнка не на тым баку гісторыі, – дадаў сэнатар-рэспубліканец Джон Маккэйн. – Раней ці пазьней мы ўбачым дэмакратыю і свабоду ў Беларусі таксама як ў Літве, Латвіі і Эстоніі. Народ у Беларусі ведае вельмі добра, што дэмакратыя існуе ўжо ў ягоных суседзяў. І беларусы будуць мець тую ж свабоду."

"Аляксандра Лукашэнку чакае такі ж лёс, як лідэраў Блізкаўсходніх краінаў, і ён будзе вымушаны саступіць патрабаваньням апазыцыі аб дэмакратызацыі", – заявіў Маккэйн. Ён назваў Лукашэнку "бязьлітасным, жорсткім, брутальным тыранам".

Спатканьне сэнатараў са студэнтамі ЭГУ адбылося ў сьценах літоўскага Сойму, у "Залі 11 сакавіка", і доўжылася каля 30 хвілінаў.

Сэнатары выказалі жаданьне паслухаць



**Сэнатар Джо Лібэрман**

беларускіх студэнтаў. "Вы – будучыня Эўропы, будучыня вашай краіны", – заявіў Джон Маккейн, а Джо Лібэрман дадаў: "Мы тут, каб больш даведацца пра тое, што адбываецца ў Беларусі, а таксама пачуць вашы парады, наконт таго, што можна зрабіць, каб справы ў Беларусі пайшлі ў лепшы бок. Ідзе гістарычная барацьба паміж свабодай і тыраніяй. Гэта цяжкая барацьба, але мы ўпэўненыя, што вы пераможаце".

Сустрэча адбывалася ў фармаце пытаньняў і адказаў, пры гэтым і самі кангрэсмэны задавалі пытаньні студэнтам ЭГУ. Кангрэсмэн Джэф Флэйк, напрыклад, запытаўся: "Як мы яшчэ можам выказаць вам сваю салідарнасьць з вамі?" У адказ да студэнтаў ЭГУ прагучала пажаданьне, каб больш унівэрсытэтаў у Эўропе і ЗША маглі прымаць на вучобу маладых людзей зь Беларусі, пацярпелых ад рэпрэсіяў. Таксама было выказана пажаданьне палегчыць атрыманьне амэрыканскіх візаў для студэнтаў, якія пацярпелі ад уладаў.



*04.02.2011*

# Нямецкія і эстонскія нацыянальныя візы будуць бясплатнымі

Ад 4 лютага 2011 г. без консульскага збору будуць выдавацца нацыянальныя нямецкія візы для беларускіх грамадзян. Пра гэта паведаміла прэс-служба амбасады Германіі ў Беларусі.

Нацыянальныя (не шэнгенскія) візы выдаюцца асобам, якія хацелі б знаходзіцца ў Германіі больш за 3 месяцы, напрыклад, з мэтай уз'яднання сям'і, для вучобы або ажыццяўлення працоўнай дзейнасці.Пад гэты новы парадак не падпадае выдача шэнгенскіх віз для кароткатэрміновых прыватных і дзелавых паездак працягласцю да 90 дзён у межах паловы года.

Эстонія адмяняе консульскі збор за эстонскую доўгатэрміновую (нацыянальную) візу для грамадзян Беларусі ад 1 сакавіка 2011. Пра гэта паведаміла амбасада Эстоніі ў Менску.

# Беларусь прывячае імігрантаў

Як вядома, усе апошнія гады ў Беларусі скарачаецца колькасьць насельніцтва, падае нараджальнасьць, шмат хто выязджае ў эміграцыю.

Беларускія ўлады у такой сытуацыі плянуюць павялічыць прыток эмігрантаў і завабліваюць людзей рознымі ільготамі. Магчыма, што за гэтым стаіць не толькі жаданьне дапамагчы імігрантам абжыцца на новым мейсцы, але і забясьпечыць іх ляяльнасьць да дыктатарскага рэжыму. Адным словам, выязджаюць апазыцыянеры, а прыезжыя будуць удзячныя беларускім уладам за магчымасьць выбрацца з тых рэгіёнаў былога СССР, дзе жыцьцё яшчэ горшае.

Кожная сям'я імігрантаў, якая перасяляецца на пастаяннае жыхарства ў Беларусь, атрымае ад дзяржавы 1000 даляраў на адаптацыю на новым мейсцы. Для гэтага выдзяляюцца адмысловыя дзяржаўныя сродкі.

У 2010 годзе ў Беларусь прыехала больш 17 тыс. чалавек. З гэтай колькасьці 95 % складаюць перасяленцы з Расеі, Украіны і краінаў СНД.

# Акторы Нью-Ёрку супроць Лукашэнкі

19 студзеня, калі споўніўся роўна месяц пасьля падзеяў на Плошчы Незалежнасьці ў Менску, у Нью-Ёрку адбыўся мітынг у падтрымку беларускіх дэмакратаў, якія выступілі супроць фальсіфікацыі прэзыдэнцкіх выбараў. Шматлюдная акцыя прадстаўнікоў тэатральнай грамадзкасьці Нью-Ёрку і беларускай дыяспары адбылася на Мангэттане каля Пастаяннага Прадстаўніцтва Беларусі пры ААН. Акцыя была арганізаваная нью-ёркскім Public Theatre, амэрыканскім аддзелам "Міжнароднай Амністыі" і Беларускім вольным тэатрам, які перад тым меў пасьпяховыя гастролі ў Нью-Ёрку.

Удзельнікі мітынгу накіравалі ліст Вярхоўнаму Камісару ААН па правах чалавека з патрабаваньнем прызначыць адмысловага дакладчыка, які правёў бы расьследаваньне факту брутальнага прымяненьня сілы супроць мірнай дэманстрацыі ў Менску і ўключэньня пытаньня аб парушэньні правоў чалавека ў Беларусі ў Парадак дня Рады ААН па правах чалавека.

Арганізатары мітынгу прасілі аб сустрэчы з Пастаянным прадстаўніком Беларусі пры ААН Андрэем Дапкюнасам, але той ніяк не адрэагаваў на гэтую просьбу.

Мастацкі кіраўнік Public Theatre Оскар Юстыс паведаміў, што на мітынгу прысутнічаюць акторы з 30 нью-ёркскіх тэатральных калектываў і сабраліся яны сюды па прычыне унікальнай сытуацыі, каб падтрымаць Беласрускі вольны тэатр і ўсю дэмакратычную Беларусь, якая змагаецца за свабоду. "Беларускі вольны тэатр, сказаў Оскар Юстас,- гэта не толькі цудоўныя артысты, але і мужныя людзі, якія з гонарам выконваюць свой абавязак тэатральнага мастака – гаварыць ад імя тых, хто не ў стане зрабіць гэта сам, і прыцягваць увагу да тых, хто гэтага найбольш патрабуе". Пазьней Оскар Юстыс прызнаўся журналістам, што ў Амэрыцы тэатры рэдка ўдзельнічаюць у палітычных дэманстрацыях і тым больш не арганізоўваюць іх. Але, у гэтым выпадку яны хочуць выказаць сваю салідарнасьць з артыстамі Беларускага вольнага тэатра, да якіх яны ставяцца з надзвычайнаю павагаю, і таксама яны выступаюць за свабоду слова, за права беларускага народу вольна выказваць свае думкі і за вызваленьне палітзьняволеных.




Дырэктар Вольнага тэатру Натальля Каляда назвала акцыю ў Нью-Ёрку неверагоднай, бо яна арганізаваная не палітычнымі актывістамі, а людзьмі мастацтва. Сп. Натальля аднак падкрэсьліла, што асноўная місія тэатру – тэатральная. Мы разумеем, што менавіта сваімі спектаклямі і сваім мастацтвам мы змаглі прыцягнуць тую ўвагу да нашай краіны, якую яна зараз патрабуе".

У мітынгу бралі ўдзел вядомыя амэрыканскія акторы - Мэндзі Патынкін, Лінда Эманд, Кэтрын Гродзі і інш. Ляурэят Пулітцэраўскай прэміі, вядомы драматург Тоні Кушнер у сваім выступе заклікаў амэрыканскія ўлады асудзіць рэпрэсіі ў Беларусі. "Мастацтва Беларускага вольнага тэатру натхняе ўсіх нас, - сказаў далей сп. Кушнер, - яны даюць нам надзею на тое, што мастацтва здольнае ўплываць на сьвет, што тыранія будзе разбураная і справядлівасьць пераможа".



**Выступае Оскар Юстыс**

Намаганьні Беларускага вольнага тэатру сродкамі мастацтва інфармаваць сьвет пра палітычную сытуацыю ў Беларусі і брутальнасьць беларускага дыктатарскага рэжыму атрымалі шырокую падтрымку творчых дзеячаў з розных краінаў.

Тэатр і надалей працягвае сваю працу на гастролях у замежжы. Трупа атрымала запрашэньне сыграць 20 спектакляў цягам лютага ў адным з вядучых тэатраў Чыкага "Гудмэн". Пасьля гэтага калектыў тэатру накіруецца ў Гонконг на раней запланаваныя гастролі.

*Ганна Сурмач*

# "Гаварыць па-беларуску модна"

У канцы мінулага году ў Беларусі (як і шмат дзе яшчэ) любяць падводзіць вынікі пражытых 12 месяцаў: вызначаць, што было самае значнае, самае цікавае. І хоць брутальныя палітычныя падзеі ў сьнежні адсунулі культурныя навіны на другі плян, усё ж крытыкі ды экспэрты склалі рэйтынгавыя сьпісы нашых нацыянальных набыткаў за год. Так, найлепшай кнігай году прызнаны двухтомны "Збор твораў" Ларысы Геніюш, слыннай паэткі, чыё 100-годзьдзе годна ўшанавала летась беларуская грамадзкасьць.

Паколькі я мела непасрэднае дачыненьне да працы аргкамітэту, які ладзіў амаль усе юбілейныя імпрэзы і спрыяў публікацыям, ды лічу Ларысу Геніюш вялікай паэткай і нашай дысыдэнткай №1, "хроснай маці" сотняў дзейных змагароў за беларускасьць, дык хачу крыху распавесьці пра зробленае летась у яе гонар.

Нагадаю перш асобныя радкі зь яе біяграфіі. Нарадзілася ў Жлобаўцах на Гарадзеншчыне 9 жніўня (27 ліпеня па ст ст.) 1910 году ў заможнай сялянскай сям'і Міклашэвічаў. Зь дзяцінства была закаханая ў навакольнай прыродай ды мілагучнымі беларускімі песьнямі. Скончыла гімназію ў Ваўкавыску (польскую, бо ж тады гэта была Заходняя Беларусь). Выйшла замуж за студэнта – будучага лекара Янку Геніюша. Іх адзіны сын Юрка нарадзіўся ў Зэльве, у дзедавай хаце. У ёй Ларыса і Янка потым будуць дажываць свой век. Але перад тым яшчэ будзе Прага, дзе выпускнік Карлавага ўнівэрсытэту здабудзе працу, куды вякліча жонку з сынам, будзе імклівы ўзьлёт паэткі Ларысы Геніюш, яе першая кніга ("Ад родных ніў", 1942). Сілаю вывезеныя па вайне ў Савецкі Саюз, Геніюшы, якія ніколі ня мелі савецкага грамадзянства, былі пакараныя 25 гадамі сталінскага лягеру. І восем пасьпелі адбыць, пакуль у той краіне не пачалася "адліга". З расейскай Поўначы іх адпусьцілі. Аднак жыць дазволілі толькі ў Зэльве, пад пастаянным наглядам, а рэгабілітаваць іх улады не пагаджаюцца дагэтуль. Хоць Савецкі Саюз дваццаць гадоў таму сканаў, яго верныя слугі ўсё яшчэ кіруюць на нашай зямлі.

Ніякія дзяржаўныя ўстановы Рэспублікі Беларусь не ўзялі на сябе клопат адсьвяткаваць юбілей паэткі. Дзеля ўшанаваньня яе памяці паўстаў арганізацыйны камітэт зь літаратараў ды грамадзкіх актывістаў, яго ачоліў Міхась Скобла, паэт і дасьледнік літаратуры, знаўца творчасьці Ларысы Геніюш. Менавіта М. Скобла стаў укладальнікам ужо згаданага двухтомнага "Збору твораў", куды ўвайшлі вершы розных гадоў (сярод іх 74 ніколі раней не друкаваныя), успаміны Ларысы Геніюш, пры першай публікацыі названыя "Споведзьдзю", яе лісты, вялікая колькасьць фотаздымкаў (старэйшы ўнук – Міхась "адчыніў" для выдаўцоў сямейныя зборы). Кнігі выйшлі ў сэрыі "Галасы Айчыны" ў прыватным выдавецтве "Лімарыус", мастацкае аздабленьне зрабіў Генадзь Мацур, адзін зь лепшых у Беларусі кніжных графікаў. Гэты самы творчы калектыў выпусьціў у сьвет альманах "Асоба і час" №3, цалкам прысьвечаны адной асобе – Ларысе Геніюш. Ён увабраў успаміны, напісаныя людзьмі, якія мелі шчасьце ці гонар спаткацца зь ёю на жыцьцёвых сьцежках, лісты яе – і да яе, копіі дакумэнтаў, адшуканых чэскай дасьледніцай Франьцішкай Сокалавай у праскіх архівах, што пацьвярджаюць праўдзівасьць да апошняй літары напісанага Ларысай Геніюш у ейнай "Споведзі".

Гукавым дадаткам да альманаху стаў дыск, выраблены паводле магнітафоннай стужкі, што зьбераглася ў маім хатнім архіве з 1981 году. Я прыехала тады ў Зэльву дзеля інтэрвію з паэткай, але ў мікрафон яна пагадзілася толькі вершы пачытаць. Сама выбрала, што менавіта, бо хацела, каб іх паслухалі ў Менску нашы агульныя сябры і знаёмыя – мастакі, літаратары, навукоўцы. (Цяпер іх агулам называюць сусполкаю "На паддашку"). Жывы голас паэткі ў жніўні леташняга году амаль штодзень гучаў на радыё "Свабода". Новы дыск быў скарыстаны напоўніцу.

Далучыўся да юбілею і незалежны беларускі тэлеканал "Белсат". Ягонымі стараньнямі быў зьняты дакумэнтальны фільм "Няскораная". Здымкі рабіліся на месцы колішняй сядзібы Міклашэвічаў у Жлобаўцах, зруйнаванай бальшавікамі, у Чэхіі, дзе Геніюшы шчасьліва жылі і адкуль былі гвалтам скрадзеныя, у Зэльве і ваколіцах. Гучаць у ім таксама аповеды людзей, якія зь ёю сябравалі, кантактавалі, на лёсы якіх Ларыса Антонаўна моцна паўплывала. Яна была сымбалем беларускасьці, духовай нязломнасьці для многіх і многіх людзей. І ў той бязбожны савецкі час, калі чалавек толькі за наведваньне царквы мог быць выгнаны з працы, яна адкрыта вызнавала сваю веру, дапамагала сьвятару, рупілася пра Зэльвенскую царкву, хрысьціла дзетак.



**На зельвенскіх могілках, дзе пахавана Ларыса Геніюш**

Музыкі, сьпевакі бралі ўдзел ва ўсіх юбілейных імпрэзах. Суполка БМАgroup паўторна выдала дыск зь песьнямі на словы Ларысы Геніюш ("Жыць для Беларусі", 2005), бо папярэдні наклад цалкам раскупілі. "Пайшоў у народ" і дыск "Белы сон", запісаны аднайменным беластоцкім гуртом, дзе пераважаюць песьні на словы юбіляркі.

Былі публікацыі ў беларускіх газэтах і часопісах, пераважна недзяржаўных, вечары паэзіі, нават навуковая канфэрэнцыя. Аднак нэгатыўнае стаўленьне чыноўнікаў да асобы Ларысы Геніюш азмрочвала ды псавала сьвяточны настрой. Напрыклад, калі прыхільнікі яе таленту з усёй Беларусі і мясцовыя актывісты сабраліся ў Ваўкавыску, каб зладзіць урачыстае адкрыцьцё памятнай дошкі на доме, у якім нарадзілася паэтка (будынак са Жлобаўцаў быў сюды перавезены за савецкім часам), то ўбачылі толькі дзіркі ад цьвікоў на сьцяне будыніны. Выявілася, што міліцыянты арыштавалі дошку разам з чалавекам, які яе мацаваў на сьцяне з поўнай згоды сёньняшніх уладальнікаў дому. Замест урачыстых прамоваў людзі выказалі абурэньне ды пайшлі да міліцыі вызваляць бязьвінна арыштаванага. А сяброўскую сустрэчу змушаныя былі перанесьці на бераг вадасховішча. За ўсімі іхнімі дзеяньнямі пільна сачылі міліцыянты ды "невядомыя ў цывільным адзеньні", нават здымалі на відэа. І галоўную ўрачыстасьць – сьвята ў Зэльве – не мінула "ўвага" лукашэнкаўскіх ідэолягаў. Хоць старшыня аргкамітэту шмат часу правёў у папярэдніх перамовах, спрабуючы пераканаць: імя Ларысы Геніюш робіць Зэльву вядомай і славутай па ўсім сьвеце.

*(Заканчэньне на 7-й бачыне)*

# “ІМПЭРЫЯ ЗЛА” – ІМПЭРСКАЕ ПАБОІШЧА

*Развагі з нагоды 100-годзьдзя з дня нараджэньня прэзыдэнта ЗША Рональда Рэйгана ды карнага разбою ў Беларусі.*

6-га лютага – дзень нараджэньня Рональда Рэйгана (1911 – 2011), саракавога прэзыдэнта Злучаных Штатаў Амэрыкі. Амэрыканскі палітычны сьвет і шырокае грамадзтва пачалі адзначэньне гэтага юбілею задоўга да ягонай даты. Угодкі былі адсьвяткаваныя ўрачыста, зьместоўна. Былі выдрукаваныя сотні мэмуарна-дасьледчых артыкулаў, выйшла больш за дзесятак грунтоўных манаграфіяў, сямейных кніжак: дзёньнікаў, альбомаў. У навуковых установах чытаюцца спэцыяльныя лекцыі, адбываюцца акторскія выступы, а ў Рэйганаўскай прэзыдэнцкай бібліятэцы ў Каліфорніі праходзяць палітычныя дэбаты, сымпозіюмы гістарыкаў. Выставак прысьвечаных прэз. Рэйгану адбылося дзясяткі ды адчыняюцца ўсё новыя. На іх дзе-нідзе можна ўгледзець і жэтон “Беларусы за Рэйгана-Буша. 1984”.

Да сьвяткаваньня, зразумела, падключаныя й радыёстанцыі ды тэлебачаньне зь фільмамі пра прэзыдэнта-юбіляра, а таксама фільмы, у якіх Рональд Рэйган граў некалі акторам. Цікава й тое, што некаторыя сучасныя палітыкі прынагодна паказваюць сваё сьветагляднае падабенства да прэз. Рэйгана, хоць яно й ня так відавочнае, а то й надуманае. Больш за гэта! Цяперашні прэзыдэнт Барак Абама таксама часам імітуе Рэйгана, ягоны палітычны стыль, манэрызмы ды спасылкі на былога прэзыдэнта, рэспубліканца-кансэрватара, як на годны прыклад дзяржаўнага мужа. Вашынгтонскія “знакі-языкі” кажуць, што ў часе нядаўнага каляднага адпачынку прэз. Абама перачытаў Рэйгана -- ягоную біяграфію, палітычныя натакі. Як кажуць нашыя маладзейшыя землякі: “Гэта здорава!” А я дадам: “Супэрздорава!”

Ясна, па-за юбілейным мажорным уздымам, палітычная спадчына прэз. Рэйгана вывучаецца й глыбей ды высновы з гэтага дасьведчаньня прыкладаюцца да цяперашніх умоваў, наколькі гэта магчыма.

Ня ўсё ж было гэтак пасьпяхова й гладка за часоў Рэйгана. Прыкладам, гэтак званая рэганоміка (тэрмін для азначэньня Рэйганавай эканамічнай палітыкі) пачала даваць дадатныя паказьнікі не ў часе прэзыдэнцтва Рэйгана, а значна пазьней пры прэзыдэнтах Джорджу Бушы старэйшым і Білу Клінтане. Не заўсёды гладка йшло Рэйгану і ў замежнай палітыцы: былі й ваенныя канфлікты й трагедыі, як у Ліване (масавае забойства амэрыканскіх марскіх пехацінцаў). Аднак мамэнты менш блiскучыя ў спадчыне Рэйгана не акцэнтуюцца, а наводзіцца больш блеск на цэлым 8-мігадовым пэрыядзе ягонага прэзыдэнцтва: 1980—1988.

Прыпушчаю, што маладзейшы чытач “Беларуса” можа запытацца: А што ж асаблівае было ў дзейнасьці прэз. Рэйгана, што праз два дзесяцігодзьдзі пазьней спрыяе ўзьвялічэньню прэзыдэнцкае постаці яго, ганарыць ягоную палітычную спадчыну? На такое пытаньне мой асабісты адказ (дый шмат якіх амэрыканскіх аўтарытэтаў) будзе гэткі: Прэз. Рональд Рэйган, упоруч з пазытыўнымі крокамі ва ўнутранай палітыцы, у замежнай палітыцы дасягнуў таго, што амаль і ня марылася – прысьпешыў заканчэньне так званай халоднай вайны – Захад перамог, і да гэтай перамогі найбольш з усіх амэрыканскіх лідэраў спрычыніўся прэз. Рэйган. Вось некаторыя найбольш зыркія мамэнты ў гэтым змаганьні, якія высака цэняць амэрыканцы.

Хутка пасьля ўваходу ў Белы Дом, добра арыентуючыся ў міжнароднай палітычнай сытуацыі, бачачы як Саветы падпальваюць канфлікты па іншых кантынэнтах, а ў сябе душаць правы чалавека й нацыянальна-адраджэнскія рухі, прэз. Рэйган, не зважаючы на “палітычную карэктнасьць”, на г. зв. бон тон, акрэсьліў Савецкі Саюз як Імпэрыю Зла. Затым, калі прысьпеў час, ён кінуў выклік савецкаму лідэру М. Гарбачову: “Містэр Гарбачоў, разбурце гэту сьцяну (бэрлінскую)!” і зь непрыхаваным незадаваленьнем выказаўся ў перамовах аб скарачэньні міжкантынэнтальных ракетаў і ядравай зброі: “Давярай, але правярай”-- маўляў, мы, амэрыканцы, з вамі, камуністамі, дачыненьні мець будзем, але будзем пільнавацца! Гэтыя рэйгаўскія характарыстыкі-пастуляты былі выклікам савецкай языкатай махіне, і яны знайшлі рашучую падтрымку ў амэрыканскім грамадзтве.



**“Рональд Рэйган прамаўляе на сустрэчы з прадстаўнікамі нацыянальнасьцяў, сярод якіх былі і беларусы, пад час выбарчай кампаніі 1979 году, Нью-Ёрк”.**

Імпэрыя Зла выкліку Амэрыкі ня вытрымала. Блефаваньне скончылася. Пачаўся распад. Прэзыдэнт Рэйган увайшоў у сусьветную гісторыю як вялікі дзеяч, адзін зь вялікіх прэзыдэнтаў Злучаных Штатаў.

А цяпер у пару словах аб нашых беларуска-амэрыканскіх дачыненьнях з прэзыдэнтам Рэйганам.

Беларусы Каліфорніі, аддзелы БАЗА й БККА, мелі сувязь са сваім губэрнатарам Рональдам Рэйганам ад 1960-х гадоў. Дзень 25 сакавіка абвяшчаўся там Беларускім Днём штату. Калі Рэйган балятаваўся ў прэзыдэнты у 1979 і 1983 гадах, беларускія рэспубліканскія клюбы па цэлай Амэрыцы актыўна падтрымлівалі ягоную кандыдатуру, былі ўдзельнікамі пачатку выбарчай кампаніі ў Парку Свабоды ў штаце Нью Джэрзі ў 1979 годзе, сустракаліся з Рэйганам-прэзыдэнтам; ягонаму ўраду былі высланыя дзясяткі мэмарандумаў, у якіх выказваліся нашы палітычныя погляды. У 1983 г. прэз. Рэйган вітаў беларусаў з угодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 Сакавіка 1918 году.

Аб сталай падтрымцы прэз. Рэйганам паняволеных народаў, улучна зь беларускім, я падзяліўся ўспамінамі на адной з сустрэчаў з маімі сябрамі-рэспубліканцамі ды выказаў гэткія развагі.

Імпэрыя Зла – надзвычай удалы тэрмін, актуальнасьць якога ня зьнікла й сёньня. А гэта таму, што імпэрыя гэтая, крыху параненая, але жывая! Напрыканцы 20-га стагодзьдзя яна пераназвалася ў Расійскую Фэдэрацыю (і СНД). Але духам сваім, сваімі адкрытымі й прыхаванымі імкненьнямі-плянамі, закулісная дзейнасьцю -- гэта тая самая “Вялікая, малая і Белая Русь” , Российская Империя, СССР. У аснове гэтае імпэрскае дзяржавы ляжыць той самы захопніцкі інстынкт, кірые той самы мозг – Крэмль з дапамогай, раней царскай “ахранкі”, пазьней – ЧК, ГПУ, НКВД, а цяпер -- ФСБ ды Расейскай Праваслаўнай Царквы (Сыноду). Гэтыя інстытуцыі характарам ня зьменьваюцца, яны перараджаюцца, захоўваючы сваю імпэрскую сутнасьць.

Беларусь вось ужо блізу 300 год як вытрымлівае наступ Імпэрыя Зла. Беларусі не пашчасьціла пакуль што вырвацца зь ейных ланцугоў. Падзеі, якія адбыліся ў Менску ў сьнежні летась – былі нічым іншым як імпэрскім пабоішчам, сьведчаньнем аб намерах Імпэрыі Зла ў 21-і стагодзьдзі, калі наш нацыянальны рух крочыць далей да сваёй дэмакратычнай беларускай дзяржавы.

*Вітаўт Кіпель*

## ПРЫВІТАНЬНЕ АД ПРЭЗЫДЭНТА РЭЙГАНА

THE WHITE HOUSE
WASHINGTON

March 24, 1988

Warm greetings to Byelorussian Americans and to everyone marking the 70th anniversary of Byelorussian Independence. This observance salutes the determination of the people of Byelorussia to live in freedom and independence. It also pays tribute to the proud and ancient heritage you do so much to perpetuate.

I join you in commemorating the heroism of Byelorussia in the face of war and oppression through the years. The Soviets continue to persecute those who speak in defense of their religion, language, history, culture, and God-given human rights.

Brave and eloquent voices still attest to Byelorussia's unconquerable spirit; I look with you to the day when the people of Byelorussia will again be free to realize their national aspirations.

God bless you, and God bless Byelorussia.

Ronald Reagan

Сардэчныя прывітаньні Беларуса-Амэрыканцам і ўсім, хто адзначае 70-я ўгодкі Беларускае Незалежнасьці! Адзначэньнем гэтых угодкаў ўшаноўваецца наважанасьць народу Беларусі жыць у свабодзе й незалежнасьці. Гэта — таксама ўшанаваньне гордае й старавечнае спадчыны, дзеля захаваньня якое Вы робіце так шмат.

Я далучаюся да Вас у ўшанаваньні гэраізму Беларусі перад абліччам вайны й шматгадовага ўціску. Саветы й надалей перасьледуюць тых, хто выступае ў абароне свае рэлігіі, мовы, гісторыі культуры й Богам дадзеных правоў чалавека.

Адважныя й красамоўныя галасы ўсё яшчэ сьветчаць пра нязломны дух Беларусі. Я спадзяюся разам з вамі, што прыдзе дзень, калі народ Беларусі зноў будзе свабодны, каб ужыцьцёвіць свае нацыянальныя імкненьні.

Няхай Бог блаславіць і Вас і Беларусь.

Рональд Рэйган

## Беларусь – "прытулак для кібэр-злачынцаў"

Такое азначэньне краіне дае справаздача міжнароднага агенцтва Business Monitor International "Аб абароне і бясьпецы Беларусі". У прыватнасьці ў дакладзе гаворыцца, што Беларусь – гэта краіна, "адкуль кібэр-злачынцы, і асобы, якія бяруць удзел у кібэр-войнах і кібэр-шпіянажы могуць дзейнічаць без умяшальніцтва з боку ўладаў".

Найбуйнейшыя краіны і міжнародныя арганізацыі называюць барацьбу зь кібэр-злачынствам адным з галоўных прыярытэтаў стратэгічных праграмаў у галіне бясьпекі на наступнае дзесяцігодзьдзе.

## Майкл Дуглас называе Беларусь краінаю сваіх продкаў



У Нью-Ёрку на вечарыне салідарнасьці з Беларусьсю, які быў арганізаваны амэрыканскім ПЭН-клюбам у падтрымку Беларускага вольнага тэатру , драматург Том Стоппард зачытаў ліст ад амэрыкакнскага актора Майкла Дугласа. У лісьце гаворыцца:

“Я – амэрыканец таму, што сям’я майго бацькі (актора Керка Дугласа-рэд.) прыехала з Беларусі ў пошуках новага жыцьця ў краіне Свабоды. Мы павінны выкарыстоўваць гэтую свабоду для таго, каб падтрымаць тых, каму адмоўлена ў такіх правах, як права на свабоду выбару. Як актор, я рады падтрымаць Беларускі вольны тэатр, флагман мірнага пратэсту за справядлівасьць і дэмакратыю у краіне маіх продкаў”.

*Паводле сайту Хартыя97 14.02.2011*

# Алег Аблажэй – Віленскі мастак-рамантык у Нью-Ёрку



**Алег Аблажэй у цэнтры, пра ягоныя творчыя набыткі мастака распавядаў мастацтвазнаўца Зянон Пазьняк**

Жывем у сваім часе: падоўгу сядзім у Інтэрнэце, дыскутуем на зборках, абменьваемся будзённымі парадамі ды кулінарнымі рэцэптамі. Але аднойчы прыходзім у знаёмую залю – і нібы апынаемся ў іншым вымярэньні, сярод казачнасьці і невымоўнага характва. З акварэляў ды акрылавых аркушаў пазіраюць дáмы ў шыкоўных рэнэсансава-барочных строях, сярэднявечныя прынцэсы ды гнуткія танцоркі ў віхуры спадніцаў. Годна й прывабна выглядаюць побач зь імі рэалістычныя партрэты сучасных прыгажунь. Аўтар (ці чараўнік?) стаіць побач з гэтымі сваімі тварэньнямі: негаваркі, стомлены з выгляду, загадкавы…

Адкрыцьцё выставы Алега Аблажэя адбылося ў грамадзкай залі Катэдральнага сабору сьв. Кірылы Тураўскага (Brooklyn, New York) 16 студзеня, калі яшчэ не дарэшты мінуўся ў людзей калядна-навагодні настрой, калі было так дарэчы “даць волю дзіцяці, якое сядзіць у кожным дарослым”, паводле меркаваньня псыхолягаў. Відавочна, што першым насьмеліўся зрабіць гэта мастак, які прывёз у Нью-Ёрк зь Вільні маляўнічасьць беларускіх (шырэй – эўрапейскіх!) казак і легендаў, адчуваньне сьвята, карнавалу, вясёлай гульні.

Алег Аблажэй нарадзіўся ў Беларусі, у вёсцы Лезьнявічы на Наваградчыне ў 1954 годзе, рана ўсьвядоміў сваё мастакоўскае пакліканьне і неабходнасьць здабыцьця ведаў. Скончыў мастацка-графічны факультэт у Віцебскім пэдагагічным інстытуце ды падаўся ў Вільню, пашыраць, паглыбляць адукацыю. Паланёны гістoрыяй ды красой колішняй беларускай сталіцы, пасьля завяршэньня навучаньня Алег застаўся ў ёй жыць і працаваць. Да сваёй роднай мовы дадаў пакрысе літоўскую, польскую, нямецкую.

Яго не спакусілі, не заманілі модныя ў тагачасным мастакоўскім асяроддзьдзі плыні, ён праз усё сваё творчае жыцьцё нясе вернасьць клясычнаму малюнку, услаўляе харaство чалавека й навакольнай прыроды. Найбольш хіліцца да ўвасабленьня жаночых вобразаў – піша прываблівыя, псыхалягічна глыбокія партрэты, робіць лёгкія замалёўкі, нават шаржы. “Вечна жаночае” зрабілася ягоным мастакоўскім credo.

Мяркую, гэта вялікакняская мінуўшчына Вільні ды яшчэ ў дзяцінстве спазнаная асалода чытаньня “падкінулі” мастаку ідэю гэткай бясконцай галерэі партрэтаў вытанчаных прыгажунь, з тонкім густам і няўрымсьлівымі характарамі. Яны каралеўны і каханкі, спакусьніцы й узорныя мадэнькі… Мастак-рамантык тут дае поўную волю сваёй фантазіі! Шмат якія з гэтых аркушаў задумваліся як ілюстрацыі да кніг, бо мастак Алег Аблажэй супрацоўнічае з выдавецтвамі Варшавы й Вільні, Менску й Масквы. Між іншага, аздабляе не толькі чужыя кнігі, выдаў у Варшаве й сваю “Сем казак пра каралеўнаў” (а некалькі ляжаць пакуль у рукапісах). Яшчэ ён піша цудоўныя вершы, публіцыстычныя ды мастацтвазнаўчыя артыкулы, разам з жонкай – мастачкай Крысьцінай Балаховіч удзельнічае ў грамадзкім беларускім жыцьці Вільні.

Размовы на адкрыцьці выставы ў Нью-Ёрку, натуральна, выходзілі далёка за межы мастацтва, закранaлі розныя праявы жыцьця. Актуальнай тэмай была менская “крывавая нядзеля” (зьбіцьцё й арышты соцень мірных дэманстрантаў у дзень выбараў 19 сьнежня), пры гэтым згадалі, што



госьць мае немалы досьвед змаганьня і нават узнагароду – мэдаль “13 студзеня” ад ураду незалежнай Літувы за адвагу й самаахвярнасьць, праяўленую пры абароне незалежнасьці краіны. (Гэта падзеі 1991 году, калі камуністы й савецкае войска танкамі спрабавалі задушыць імкненьне народу да свабоды). Шмат разважалі пра эканамічную сытуацыю ў краінах-суседках. З мастацтва пражыць мала ў каго атрымліваецца, на жаль. Вось, напрыклад, за мінулы год, як сказаў спадар Аблажэй, ён не змог у Вільні ні літа зарабіць сваёй творчасьцю.

Мастак быў вельмі ўдзячны амэрыканскім беларусам – сябрам Бруклінскага аддзелу БАЗА і Царкоўнай рады Катэдральнага сабору сьв. Кірылы Тураўскага, найперш Таццяне Красоўскай і Расьціславу Гарошку, якія запрасілі яго з выставаю ў Нью-Ёрк ды парупіліся пра цікавы трохтыднёвы побыт, а таксама др. Але Орса-Рамана, якая зладзіла разьвітальную сяброўскую вечарыну.

Некаторыя з твораў Алега Аблажэя засталіся ў Амэрыцы на стала, іх набылі ў мастака амэрыканскія беларусы. У розных сем’ях яны будуць годна сьведчыць пра таленавітую эўрапейскую нацыю, пра яе абаяльных жанчын, пра сьветлыя й высокія памкненьні аўтара – беларуса, які жыве ў горадзе з Вострай Брамай, пад спрадвечнай “Пагоняй”.

*В.Т.*

***З паэтычнай творчасьці Алега Аблажэя, які сваімі жывапіснымі творамі ўслаўляе красу, што так мала шануецца ў сёньняшнім прагматычным сьвеце:***

Сястра мая, Краса, і ты ў бядзе -
Ў тваіх палацах раскашуюць хамы,
І больш цябе ніхто нідзе
Чароўнаю не называе Дамай

І рыцараў тваіх кардонныя мячы
Зламаліся, й дасьпехі пражавелі,
І трубадур разгублены маўчыць,
І пажы – хлопчыкі дарэшты пасівелі

І ты маўчыш, і спраў няма табе
Да здрадаў і капрызаў чалавечых…
Краса не мітусіцца ў барацьбе –
Бо ведае, што ёй належыць Вечнасьць

# “Гаварыць па-беларуску модна”

*(Заканчэньне з 5-й бачыны)*

Аднак памятную дошку на доме, дзе паэтка з мужам жыла пасля вяртаньня з “беласьмертнай Поўначы”, выробленую менскімі скульптарамі А. Шатэрнікам і Г. Лойкам, хутка зьнялі. Абяцаную спачатку залю ў Доме культуры так і не адчынілі, людзі слухалі прамовы, вершы, песьні, стоячы ля прыступкаў гэтага “дому культуры”, пад сьпякотным жнівеньскім сонцам. Адзінае месца, дзе можна было адпачыць душою і парадавацца за паэтку, была царква і царкоўны падворак. Тут мясцовыя ўлады ня маюць сілы. Менавіта на царкоўным падворку стаіць помнікпартрэт Ларысы Геніюш, тут яе памінаюць у малітвах, тут створаны яе невялікі музэй.

Замежныя беларусы таксама прынялі годны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзеньні юбілею. Дыяспара праз усе гады высока ценіла паэтычны дар Ларысы Геніюш. Яе творчасьць была ўключана ў школьную праграму яшчэ ў 1945 годзе: у Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. Паваенныя эмігранты ўслаўлялі яе мужнасьць у адстойваньні ідэалаў 25 Сакавіка, спачувалі нягодам, якія выпалі на яе долю, імкнуліся падтрымліваць яе магчымымі спосабамі. Ліставаньне было адным зь іх. Цяпер спадарыня Людміла Бакуновіч зь Нью-Джэрзі перадала ў Беларусь лісты Ларысы Геніюш 1969 – 1973 гадоў, якія зьбераглісь ў сямейным архіве, а таксама фатаграфіі пляменьніц з Аўстраліі, якіх паэтка называла “мае жывыя помнічкі”, бо яны атрымалі імёны ў яе гонар. Некалькі гэтых лістоў надрукавана ў альманаху “Асоба і час”, уся калекцыя перададзена на захаваньне ў Беларускі архіў-музэй літаратуры і мастацтва. У часопісе “Дзеяслоў” (№№4,5 за 2010 г.) апублікаваныя лісты Ларысы Геніюш да Язэпа Найдзюка, якія праз гады зьбярог мастак Мікола Давідзюк з Лодзі (Польшча). Спадарыня Лёля Касоўская, спадарства Алісіёнкаў, спадар Вячка Станкевіч, а таксама O.R. Cultural & Education Foundation зь Нью-Ёрку падтрымалі выданьне музычных і паэтычнага дыскаў. Варта сказаць, што ня ўсё сабранае ды падрыхаванае да друку ўбачыла сьвет. Як мінімум магла быць яшчэ адна кніга. Толькі нястача фінансаў яе затрымала.

100-годзьдзе Ларысы Геніюш сталася падзеяй году для ўсіх, каму дарагая Беларусь – яе спадчына, яе мова, яе незалежнасьць. Паэтка прайшла па жыцьці з горда ўзьнятай галавой і бел-чырвонабелым сьцягам. Значнасьць гэтай асобы для нацыянальнага жыцьця з гадамі ўзмацняецца. Пачуйце яе і вы:

Гаварыць па-беларуску – модна,
Мовы маці, кажуць, не забыць.
Для мяне ж гэта не модна, толькі родна –
гэта так, як піць, як есьць, як жыць…

*Валянціна Трыгубовіч*

# Віталю Сіліцкаму патрэбна дапамога

Віталю Сіліцкаму, акадэмічнаму дырэктару Беларускага інстытуту стратэгічных дасьледаваньняў (BISS), патрэбна тэрміновая дапамога.

У ліпені 2010 года Сіліцкаму дыягнаставалі рак правай ныркі. Дактары выдалілі хворы орган і давалі станоўчы прагноз на будучыню, аднак, на жаль, у студзені хвароба вярнулася. Адзіныя даступныя ў Беларусі лекі, якія могуць прыпыніць распаўсюд ракавых клетак у арганізме (Sutentin), каштуюць каля 8000 даляраў на месяц. Акрамя таго, шукаюцца магчымасьці для лячэньня за мяжой.

Офіс за дэмакратычную Беларусь разам з Pact (міжнародная некамерцыйная дабрачынная арганізацыя) адкрылі ў Бэльгіі і Украіне банкаўскія дабрачынныя рахункі для збору фінансавай дапамогі Віталю Сіліцкаму.

Дапамагчы Віталю можна, пералічыўшы грошы на яго лячэнне.

**Бэльгія**

Bank ING, Branch Sablon
20, rue de la Regence,
1000 Brussels, Belgium
Рахунак на імя: Office for a Democratic Belarus
Рахунак: 363-0779606-57
IBAN: BE09 3630 7796 0657
BIC (SWIFT): BBRUBEBB
Payment details: donation for Vitali Silitski

Калі вы жадаеце пералічыць больш за 1 тысячу еўра, калі ласка, праінфармуйце Вольгу Стужынскую olga@democraticbelarus.eu

**Украіна**

Бенефіцыятар: Nataliia Karchevska
Account#: 2620 9 201476957
Beneficiary’s bank: OTP Bank
43 Zhylyanska Str., Kyiv, 01033
SWIFT code: OTPVUAUK

У Нью-Ёрку зборам сродкаў займаецца старшыня царкоўнай рады Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага Др. Расьціслаў Гарошка (rastislau@gmail.com).

*Рэдакцыя*

# Наш новы праект: - Belarus Art

***Маладая мастачка з Нью-Ёрку – Ксеня Капытка прапануе свой праект - заснаваць адмысловую старонку ў нашай газэце, прысьвечаную беларускаму мастацтву - "Belarus Art":***

"Мая ідэя такая... Людзі маглі б на гэтай старонцы не толькі дасылаць ці чытаць розныя артыкулы на тэму мастацтва, але і таксама бачыць выявы сваіх твораў, якія яны самі маглі б дасылаць на гэты email (bielarusart@gmail.com) разам з кароткай інфармацыяй - імя, краіна, дзе жыве творца, пажадана - узрост, а таксама трохі пра сваю творчую працу.

Могуць дасылацца творы ўсіх формаў мастацтва - малюнкі, фоткі, таксама вершы ці прозу.

На гэтай старонцы могуць быць паказаны творцы ўсіх узростаў, з markознымі ідэямі... але будуць некалькі ўмоваў:

- Мастацтва павінна быць пра Беларусь альбо штосьці Беларускае
- Гэта павінен быць толькі ўласны (аўтарскі) твор
- І яно таксама павінна не перавышаць PG -13 рэйтынг, каб быць надрукаваным ў газеце ".

Для пачатку Ксеня прадстаўляе да ўвагі чытачоў свае ўласныя працы – два малюнкі.

Ксені 18 гадоў, яна заканчвае сярэднюю школу і адначасна наведвае заняткі ў LaGuardia High School of Music and Art and Performing Arts. Ксеня нарадзілася ў Беларусі і прыехала з бацькамі ў Амэрыку ў 1999 годзе. Бацька яе – мастак, які і прывіў дзяўчыне сваю любоў менавіта да беларускага мастацтва.

Запрашаем нашых чытачоў адгукнуцца на прапанову Ксені і падтрымаць ейны праект сваім непасрэдным удзелам.

*У рамках праекту прадстаўляем творчасьць нашага чытача з Таронта **Юр'я Жвалікоўскага.** Яго добра ведаюць беларусы ў Канадзе і ЗША. Сп. Юры - актыўны ўдзельнік беларускіх імпрэзаў, выдатны музыка-акмпаніятар. Удзельнікі традыцыйных Сустрэчаў Беларусаў Паўночнай Амэрыкі з захапленьнем заўсёды сустракаюць ягоныя выступы ў канцэртных праграмах. Але музыка толькі для душы, на жыцьцё Юры зарабляе іншай працаю. Ён кіроўца трэйлеру і, выглядае, што гэтая праца яму таксама вельмі падабаецца. Доўгія падарожжы, новыя мясьціны, новыя ўражаньні натхняюць ягоную творчую душу. Прапануем ягоныя творчыя зацемкі.*

Кожны раз, калі я трапляю ў горы, будзь то Арызона, ці Каліфорнія, ці Новая Мэксіка, то адчуваю неабходнасць нешта напісаць. Пакуль не перанясу свае думкі на паперу, душа не можа супакоіцца. Я прыкмеціў, што натхненьне, як выбух, прыходзіць у адных і тых жа і часцей у першай палове начы альбо раньнім ранкам. Мясціны гэтыя прыгожыя ў любую пару году, асабліва ўлетку. Веліч гор падымае твае думкі. А з вышыні, як вядома, бачыш больш, адчуваеш больш востра ўсе жыццёвыя абставіны. Мне прыйшло такое параўнанне: горны арол жыве больш цікавым жыццём, чым яго сабрат певень ля сваіх нясушак.

І яшчэ адна думка.Музыка ў дальнім падарожжы дае чалавеку такую энэргію, якую нельга атрымаць нідзе. Яна і акамулятар і генэратар. Яна, як глыток вады ў пустэльні. Часам, праехаўшы 1000 вёрст, здаецца сілы пакідаюць цябе. І калі знойдзеш музыку, якая табе па густу, то сілы вяртаюцца, і ты абнаўлёны, з добрым настроем едзеш яшчэ гадзіны дзьве або і тры...





## Музыка

Музыка. Музыка. Музыка...

Ты і толькі ты падтрымліваеш сілы ў маіх тонкіх жылах.

Прайшла праз пласт вякоў, каб перадаць для нас пачуцці і энэргію дзядоў.

І, як крынічная вада, [тым, хто сапраўднай музыцы дае ўвагу] з тваёй душы адпусьціць смагу... Паэту прынясе надхненне, калі прыходзіць да паэта творчае імгненне.

Калі ў наш няпросты век стаміўся чалавек, то дзе б не апынуўся ён - на караблі ў акіяне, у касьмічным плаваньні, ну а часцей працуючы на сушы, нам музыка з малітвай разам лечыць душу.

*Milan. NM 11/12/2010 5 гадзін раніцы.*

## Пачуцьці

*(Прыгажосьць гучаньня слова нашага)*

Мне так патрэбна беларусам сябе адчуваць,
з людзьмі сустракацца
І нашай прыгожаю мовай усіх частаваць.

Часам, пачуеш у вечары трэлі бясконца прыгожыя
ад свістуна-салаўя
Такая ж чароўна-непаўтаральная любая мова мая.

У летку ля возера хлопцы з дзяўчатамі песьні
на мове сьпяваюць.
Шчыра,з пачуцьцямі кожнае слова яны
вымаўляюць,
Тонкасьць пачуцьцяў у песьнях адзін аднаму
дасылаюць,
Душу сваю беларускую, вобразы мілыя
людзям яны адчыняюць.

Рэха на возеры з словамі дзіўнымі доўга гуляе
І для сябе і для нас словы гэтыя мноства разоў паўтарае.

*24 Верасня 2010 Cincinati, OH*

# ДЗІЦЯЧАЯ СТАРОНКА

## Ад крадзенага не пасыцееш

**Беларуская народная казка**

Былі ў аднаго чалавека два сыны. Як выраслі яны, бацька сказаў:

— Пара, сыны, за сталую работу брацца. Хто з вас чым хоча заняцца?

Маўчаць сыны — ня ведаюць, якую сабе работу выбраць.

—Ну, дык пойдзем,— кажа бацька,— у свет, паходзім, паглядзім, што людзі робяць.

Сабраліся і пайшлі.

Ідуць так памаленьку, сыны да ўсяго прыглядаюцца, думаюць, якую работу ім выбраць.

Падышлі да адной вёскі. Бачаць — стаіць пры канцы вёскі кузьня. Зайшлі яны ў кузьню. Прывіталіся да каваля, пагаварылі. Старэйшы сын нават молат у рукі ўзяў — памог кавалю нарог выкаваць.

І зноў далей рушылі.

Падышлі да другой вёскі. Старэйшы сын паглядзеў туды-сюды: не відаць кузьні ў гэтай вёсцы. Вось ён і кажа да бацькі:

— А чаму б і тут кузьню не паставіць? Я мог бы за каваля застацца. Мне гэта работа падабаецца.

Бацька зарадаваўся: знайшоў, думае, большы сын сабе спосаб да жыцьця!

— Добра,— кажа,— будзь кавалём у гэтай вёсцы.

Паставіў ён сыну кузьню, той і пачаў кавальскаю справаю займацца. Людзі яго хваляць, і сам ён сваёю работаю задаволены.

А меншы сын, колькі ні ходзіць,— ніяк ня можа работу па густу выбраць.

Ідзе ён аднаго разу з бацькам каля лугу. Бачыць — пасецца на лузе вол. А вёска далекавата, і пастуха не відаць.

— Ці не пачаць мне, бацька, валоў красці? — кажа сын.— Работа гэта лёгкая, і кожны дзень зь мясам буду. Растаўсцею і сам, як вол.

— Крадзь,— кажа бацька.— На тое ж я цябе і ваджу, каб ты сабе які сталы занятак выбраў.

Заняў сын вала і пагнаў дахаты. А бацька кажа:

— Пачакай мяне пры лесе — мне трэба яшчэ ў гэтую вёску заглянуць: там адзін мой знаёмы жыве...

Гоніць сын вала ды ўсё азіраецца, як воўк, ці не бяжыць хто за ім. Пакуль да лесу дагнаў, дык добра такі перадрыжаў. Аж млосна ад страху зрабілася.

Пачакаў ён на ўзьлеску, пакуль бацька вярнуўся, і пагналі разам вала дахаты.

Зарэзалі дома вала, зьнялі шкуру ды пачалі варыць сьвежаніну.

Наварылі, бацька кажа сыну:

— Вось што, сынку, давай зьнімем меркі і паглядзім, хто з нас ад гэтага вала пасыцее.

Узяў ён шнурок, змераў шыю сабе і сыну і завязаў вузельчыкі.

Селі за стол. Бацька есьць спакойна, а сын усё на дзьверы пазірае: ці не ідзе хто вала шукаць? Забрэша сабака, пройдзе ці праедзе хто — сын за мяса ды ў каморку хаваецца... А ў самога рукі і ногі дрыжаць.

І пайшло так дзень за днём.

З'елі нарэшце таго вала. Бацька кажа сыну:

— А цяпер давай шыі мераць: хто з нас пасыцеў?

Памералі, дык у бацькі шыя ўдвая патаўсьцела, а ў сына ўдвая патанчэла. Дзівіцца сын:

— Чаму гэта так?

— Бо ты еў крадзенага вала,— кажа бацька.

— Дык жа і ты крадзенага еў!

— Не, я заплаціў за вала гаспадару і еў, як свайго. Таму я і пасыцеў. А ты як сядзеш за стол, дык страх адразу на шыю скок і душыць! Праз гэта яна і худзее. Ад крадзенага, брат, не пасыцееш!

*Дарагія дзеткі, ці спадабалася вам гэтая казка?*

*Як вы мяркуеце, кім стаў урэшце рэшт меншы сын?*

*А кім вы марыце стаць?*

**Што бы вы хацелі бачыць на дзіцячай старонцы газэты "Беларус"?**

*Пішыце нам на galinapodles@hotmail.com*

## На рэчцы зімою

Не сядзіцца ў хаце хлопчыку малому:
Кліча яго рэчка, цягнуць санкі з дому.
– Мамачка-галубка! – просіць сын так міла.
– Можа б, ты на рэчку пагуляць пусціла?
Я ня буду доўга, зараз жа вярнуся,
Трошачкі на рэчцы ў санках паважуся.
– Ну, ідзі, пабегай, толькі апраніся
Ды, глядзі, ў палонку, сынку, не ўваліся.
Радасьць і раздольле хлопчыку малому
І не пазайздросьціць ён цяпер нікому!
На плячо – сякерку, саначкі – у руку,
Хлеба ўзяў акрайчык. – Цюцік! – сьвіснуў Жуку.
Пад скарынкай лёду тут жа, каля хаты,
Працякала рэчка скрозь лясныя шаты.
Побач той рачулкі кучы буралому,
І застыла рэчка мёртва, нерухома.
– Эй ты, лёд-гвалтоўнік! Што ты вытвараеш?!
Ты нашто вадзіцу крыўдзіш, ушчуваеш?
Дам ёй ход, дарогу, каб на сьвет зірнула!
І яго сякерка спрытна секанула.
Зьвякае сякерка, глуха стук нясецца.
Раптам клуб вадзіцы з-пада дна ўзаўецца.
Коціцца вадзіца, іней падымае
Ды такую казку-байку хлопцу бае!
На рачулцы ў лесе меў Алесь забаву.
Ну ж і пацяшаўся хлопчык тут на славу!

*Якуб Колас*

## Школьныя жарты

**Бацька:** Чаму ў цябе такія благія адзнакі па гісторыі?
**Сын:** Таму што настаўнік увесь час пытаецца пра тое, што здарылася да таго, як я нарадзіўся.

**Настаўнік:** Што значыць надпіс на грабніцы фараона "1286 да Н.Э."?
**Вучань:** Нумар машыны, якая яго зьбіла.

**Бацька:** Ці табе падабаецца хадзіць у школу?
**Сын:** Хадзіць у школу цярпіма, таксама вяртацца са школы нармальна. Вось тое, што паміж імі я не люблю...

**Настаўнік:** Хто прыйшоў на зьмену першаму прэзідэнту ЗША?
**Вучань:** Другі прэзідэнт.

**Сын:** Тата, я сёньня не магу ісьці ў школу, бо мне нядобра.
**Бацька:** Дзе табе нядобра?
**Сын:** У школе!

**Настаўнік:** Чаму статуя Свабоды стаіць у Нью-Ёркскай гавані?
**Вучань:** Таму што яна ня можа сесьці.

**Голас па тэлефоне:** Мой сын сёньня вельмі хворы і ня зможа прыйсьці ў школу.
**Школьная сакратарка:** Хто гэта?
**Голас па тэлефоне:** Гэта мой бацька.

## З дапамогай гэтых ключоў, разгадайце беларускую народную прыказку. Што яна значыць?

□◊×*●≠≠* #"×◊, ≠± &~\¤* *\{×◊.

__________ ________, _____ ________ ______.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| □ – П | ≠ - Ц | ● - Е | ◊- Ы | × - Т |
| * - А | ± - І | # - Л | " – Ю | ~ - О |
| & - Д | \ - Б | ¤ - Р | { - У | |

# Віктар Скарабагатаў: пачуць галасы беларускай мінуўшчыны

Калі размова заходзіць пра сучасных творцаў, якія зрабілі найбольшы ўнёсак у вяртаньне айчыннай музычнай спадчыны, то адным з першых успамінаецца імя Віктара Скарабагатава – заслужанага артыста Беларусі, прафесара, кіраўніка “Беларускай капэлы”, знакамітага беларускага опернага сьпевака. Гэтаму выканаўцу і яго паплечнікам – даследчыцы старасьвецкай музычнай культуры Вользе Дадзёмавай, кіраўніку ансамбля салістаў “Клясік-авангард” Уладзімеру Байдаву, перакладчыкам Алесю Сёмуху і Уладзіміру Мархелю, іншым энтузіястам удаецца вяртаць да жыцьця забытыя шэдэўры музычнага мастацтва, якія адносяцца да аналаў нашай музычнай культуры. Гэта тычыцца творчасьці прафесіяналаў – прыдворнага камельмэйстэра Радзівілаў Яна Голанда, тагачасных кампазітараў Антонія Радзівіла, Міхала Клеафаса Агінскага, а таксама вяртаньня ў айчынны культурніцкі кантэкст вядомых музычных зборнікаў XVII-XVIII стагодьдзяў “Полацкага сшытка”, “Курантаў” і іншых. А ў 1999 годзе сумесна з Інстытутам Гётэ ў Мінску Скарабагатавым быў ажыцьцёўлены ўнікальны праект -- пастаноўка оперы А.Радзівіла "Фаўст" (1820 год) на лібрэта вялікага Ё.В. Гётэ, за якую сьпявак быў узнагароджаны прэміяй “за высокія творчыя дасягненьні ў галіне культуры і мастацтва”

Аўтару гэтых радкоў, як аднаму з удзельнікаў праекта “Беларускі музычны архіў”, давялося шчыльна супрацоўнічаць з Віктарам Іванавічам пад час сумеснай працы над дыскам “Станіслаў Манюшка. Песьні з-пад Нёмана і Дзьвіны. На вершы Яна Чачота”. Тады мяне і ўсіх супрацоўнікаў лэйбла БМА-group, на якім меркавалася выдаць першы ў краіне дыск гэтага кампазітара, незаслужана забытага ў сваёй краіне, у той час уразіла цьвёрдая паслядоўнасць і прынцыповасць В. Скарабагатава ў адстойванні правоў беларусаў на сваю музычную спадчыну, расьцярушаную па ўсім сьвеце. Да таго ж, напрацоўкі выканаўцы былі настолькі важкімі, што кіраўніцтва лэйбла прыняло ягоную канцэпцыю будучага дыска з музыкай С. Манюшкі без выняткаў. Гэты факт адбіўся на якасьці музычнага матэрыялу, сканцэнтраванага на трэхах дыска, што таксама спрыяла прызнай адзнацы гэтага выданьня слухачамі і прафэсыйнай музычнай крытыкай.

Вопыт супрацоўніцтва з незалежным лэйблам стаў карысным В. Скарабагатаву і калі той спрычыніўся да выданьня яшчэ аднаго альбому са старажытнымі беларускімі творамі – дыска “Чатыры стагодьдзі беларускай вакальнай музыкі”. Гэты музычны альбом стаўся фінальным акордам у святкаваньні гэтага значнага для айчыннай музычнай культуры юбілею. Але спачатку было ўрачыстае святкаваньне юбілейнай даты ў канцэртнай зале Беларускай акадэміі музыкі, на якой прысутнічаў В. Скарабагатаў. Са сваімі музычнымі нумарамі на сцэну выходзілі маладыя салісты, вучні Віктара Іванавіча -- Алена Золава, Юрый Горадзецкі і іншыя выканаўцы. Менавіта творы тагачасных беларускіх кампазітараў і сталі асновай юбілейнай канцэртнай праграмы да 400-годдзя беларускай вакальнай музыкі. Свае думкі і радасьць з нагоды юбілею выказаў і В. Скарабагатаў, які прадэмантраваў слухачам першы экзэмпляр кнігі з нотамі і лібрэта оперы А. Радзівіла “Фаўст” Праз некаторы час Віктор Скарабагатаў сабраў ўсе запісы з гэтага сьвяточнага канцэрта і выдаў адмысловы дыск “Чатыры стагодьдзі беларускай вакальнай музыкі”, які засьведчыў, што ў беларусаў багатая культурная спадчына, якой можа ганарыцца любая эўрапейская нацыя.



Як бачым, В. Скарабагатаў шмат увагі надае фанаграфічнай фіксацыі знаходак старажытных партытур і нотных зборнікаў. Але не так даўно пабачыла сьвет кружэлка, якую было б правільна назваць сольным альбомам знанага беларускага опернага спевака – “Віктор Скарабагатаў. Голас беларускай мінуўшчыны”. Гэты музычны зборнік пабачыў дзякуючы намаганьням Арыны Вележ – аднаго з самых актыўных прадусараў у галіне беларускай старажытнай і фолк-музыкі. На яе рахунку ажыцьцяўленьне такіх выдавецкіх праектаў, як “Легенды Вялікага Княства”, збор і выданьне альбомаў “Старажытная Зямля. Гістарычная музыка Беларусі”, “Medieval. Музыка сярэдневечных фэстаў”, “Сьпевы Беларусі” і іншых. І вось новы альбом – з старажытнымі творамі ў выкананьні В. Скарабагатава.

Відавочна, у знак прызнаньня таленту невядомых кампазітараў XVII стагоддзя, праграма дыска распачынаецца творамі паводле “Полацкага сшытка”, якія напоўнены сярэдневечнымі гармоніямі. Услед за вядомай у інтэрпрэтацыі многіх беларускіх артыстаў і гуртоў песьні “Ануся-сардэнька”, якую В. Скарабагатаў выканаў у хуткім, танцавальным рытме, асабліва лірычна гучаць іншыя творы з “Полацкага сшытка” – “Я паранены табой”, “Любі мяне, дзяўчынонька”. Так, гэтыя спевы – прыклад тагачаснай папулярнай музыкі, якая гучала на балях у палацах і замках на нашай зямлі.

Значна пазьнейшымі падаюцца творы са зборніка XVIII стагодьдзя “Куранты”, кантату паводле якога стварыў сучасны кампазітар В. Капыцька. У гэтых музычных фантазіях пераважае барочныя аранжыроўкі і гучаньне інструмэнтаў, якія імаверна былі характэрныя для музычнай культуры той эпохі.

На дыску знайшлося месца прыкладам рэстаўрацыі старажытнай музычнай творчасьці. Маю на ўвазе “Псалтыр рыфмаваную”, пераклад якой зрабіў Сімяён Полацкі. Гэтыя псальмы былі пакладзены на музыку Васіля Цітова і ананімных аўтараў XVII-XVIII стагодьдзяў. Але гэты эксперымент дае ўяўленьне пра тое, як гучалі біблейскія тэксты ў часы Сімяёна Полацкага. У выкананьні В. Скарабагатава можна пазнаёміцца з Псальмамі №51, 52, 90 і 125, параўнаць іх з сучаснымі біблейскімі трактоўкамі.

Як знаны оперны сьпявак, які не адзін год свайго жыцьця аддаў Нацыянальнаму акадэмічнаму Вялікаму тэатру оперы і балета Рэспублікі Беларусь, Віктар Скарабагатаў і яго талент раскрываюцца менавіта ў оперных партыях. Тым больш, што яго захапленьне – оперныя спектаклі, якія ладзіліся пад патранатам Радзівілаў, Сапегаў і іншых мэцэнатаў. Вось чаму сьпеваком з такой любоўю і піетэтам да арыгіналу выкананы арыі і партыі з опер “Агатка, альбо Прые’зд пана” Яна Голанда, “Апалон-заканадаўца, альбо Рэфармаваны Парнас” Р. Вардоцкага ў сучаснай трактоўцы Дзьмітрыя Смольскага. Своеасаблівым цэнтрам новага дыска “Віктор Скарабагатаў. Голас беларускай мінуўшчыны” з’яўляецца выкананая сьпеваком “Песьня Мефістофеля пра блыху” з оперы А. Радзівіла “Фаўст”. Магутны барытон В.Скарабагатава быццам лунае над аркестровай канвой, стварачы незабыўны вобраз твора паводле паэмы класіка нямецкай літаратуры Ё.В. Гётэ. Дарэчы, трактоўка беларускіх выканаўцаў значна розьніцца ад звыклых аматарам опернага мастацтва вобразаў кампазітара Шарля Гуно і аўтараў лібрэта Жюля Барб’е і Мішэля Карэ. Але больш дэталёвы параўнальны аналіз пакінем спецыялістам, калі музычны спектакль будзе пастаўлена ў Беларускай оперы і з ім пазнаёмяцца ўсе ахвочыя...

Наступны блок твораў у выкананьні В. Скарабагатава можна клясыфікаваць, як музыка кампазітараў-ураджэнцаў зямлі Беларускай. На дыску можна праслухаць песьню А. Абрамовіча на верш Я. Баршчэўскага “Гарэліца”, пазнаёміцца з узорамі творчай спадчыны аўтара палянэзу “Разьвітаньне з Радзімай” М.К. Агінскага, з песнямі С. Манюшкі і Н. Орды на вершы Я. Чачота (“Вандроўная пташка”) і А. Плуга (“Старая песенька”). Гэтыя сьпевы даюць слухачам магчымасць адчуць водар XIX стагодьдзя і ўсёй эпохі філарэтаў і філаматаў.

Завяршае праграму народная быліна “То не тры гары” -- беларускае народнае асэнсаваньне знакамітай легенды пра трох волатаў, з навуковай трактоўкай якой можна пазнаёміцца з артыкула “Крыўскі варыянт быліны аб Ільлі Мурамцы”на сайце http://kryuja.org/index.php. Яшчэ адна магчымасць параўнальнага аналізу паводле зместу дыска “Віктар Скарабагатаў. Голас беларускай мінуўшчыны”!

Запісы, якія выкарыстоўваліся для стварэньня праграмы дыска, паходзяць з архіву Віктара Скарабагатава і зьбіраліся ім на працягу некалькі гадоў. Гэтая акалічнасьць абумовіла тое, што сьпеваку акампаніравала некалькі аркестраў, у тым ліку ансамбль салістаў “Клясік-Авангард” (дырыжор У. Байдаў), ансамбль старажытнай музыкі “Кантабіле”, сімфанічны аркестр Белатэлерадыёкампаніі, Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі, якім дырыгуе В. Собалеў і іншыя. Шмат дапамагала Віктару Іванавічу і канцэртмейстэр Г. Каржанеўская, якая акампанавала яму на фартэпіяна і клявэсіне, асабліва пранікнёна ў песьні “О, праклятьі Купідо” з канататы В. Капыцікі паводле “Курантаў”...

Будзем спадзявацца, што новая кружэлка – альбом са спадчыннымі творамі беларускай старадаўняй музыкі ў выкананьні прафэсійнага опернага сьпевака стане стымулам для маладых выканаўцаў, якія давядуць распачатую Віктарам Скарабагатавым справу да сцэнічных пастановак на буйнейшай сцэне краіны – у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета. А сучасная беларуская культура ўзбагаціцца новымі яскравымі музычнымі творамі еўрапейскага гучаньня.

*Анатоль Мяльгуй*
*Менск*

# Імпрэза ў Вільні

28 студзеня 2011 года адбылося мерапрыемства ў Таварыстве Беларускай Культуры ў Літве. Напачатку выступіў мастак Алег Аблажэй, які па запрашэньню беларусаў ЗША два тыдні гасьцяваў за акіянам. Распавядаў вельмі цікава, што ў яго адбылася сустрэча не толькі з суайчыньнікамі, але і з ягонымі аднакурснікамі, якія даўно жывуць у ЗША. Мастак наведаў каля дзесяці вернісажаў сучаснага мастацтва. Мэта паездкі - пазнаёміць беларусаў Амерыкі з мастацкімі працамі беларускага мастака з Вільні. Сп. Алег паведаміў, што вандроўка адбылася дзякуючы намаганьням Зянона Пазьняка.

Далей выступіў старшыня Таварыства сп. Хведар Нюнька. Яго прамова была прысьвечана незаслужана забытаму дзеячу Язэпу Малецкаму. Нарадзіўся ён у 1906 годзе каля Друі, актыўна ўключыўся ў беларускую грамадскую дзейнасьць, змагаўся супроць паланізацыі беларусаў, за што перасьледваўся польскімі ўладамі.У часе другой сусьветнай вайны займаў адказныя пасады ў акупаваных Вільні і Беларусі, спрычыніўся да вызваленьня з лягероў шмат ваеннапалонных і арыштаваных па ілжывых даносах беларусаў. Пасьпяхова праводзіў ва ўмовах акупацыі палітыку беларусізацыі ў Баранавічах і Вілейцы. Да канца заставаўся верным ідэі незалежнасьці і адданым сынам беларускага народе. Пасьля вайны апынуўся за мяжой, напачатку ў Эўропе, а пасьля ў Аўстраліі. У Канадзе выйшла ягоная кніга ўспамінаў "Пад знакам Пагоні". Прысутныя атрымалі шмат цікавай інфармацыі, ўпершыню адкрылі для сябе гэтую цікавую постаць.

Удзельнікі імпрэзы ўшанавалі памяць ксяндза Уладзіслава Чарняўскага, якому ў гэтым годзе споўнілася б 95 год з дня нараджэньня. Нарадзіўся сьвятар у вёсцы каля Гародні, служыў у розных прыходах у Вільні і на Віленшчыне, а з 1954 году і да апошніх дзён - у Вішневе, каля Валожына. Ён быў адзіным сьвятаром, які праводзіў службы па-беларуску. У 1987 годзе мы - група беларусаў-віленчукоў наведалі сьвятара. Жыў ён вельмі сьціпла, тады працаваў над перакладам Біблії на беларускую мову. І сёньня ёсьць малітоўнікі, тэксты рэлігійных песень, апрацаваныя сьвятаром Уладзіславам Чарняўскім. Пазьней адбылося яшчэ некалькі сустрэчаў у Вільні, пры адкрыцьці мемарыяльнай дошкі Фр.Скарыне, яе асьвяціў Ул.Чарняўскі. Памёр сьвятар у Вільні.

У залі прысутнічалі і выступілі госьці з Менску: праваабронца Галіна Сіўчык, Андрэй Ларры, Кастусь Манкус. Яны расказалі пра падзеі ў Менску, удзельнікамі якіх былі і пра палітычныя рэпрэсіі у Беларусі.

Студэнт ЭГУ Кірыл Атаманчык прэзентаваў сваю кнігу пра Вільню. Кніга багата ілюстраваная, дзякуючы ёй можна вандраваць па вулачках беларускай Вільні. Свае кнігі падараваў Таварыству і народны пісьменьнік Беларусі Ніл Гілевіч.

На наступны дзень адбылася яшчэ адна цікавая сустрэча за філіжанкай гарбаты з Мацеем Канапацкім, які прыехаў з Польшчы. Асабліва цікавымі з’яўляюцца яго ўспаміны пра вучобу ў Віленскай Беларускай Гімназіі, захаваліся фотаздымкі тых далёкіх часоў. Частку гістарычных дакумэнтаў і здымкаў М.Канапацкі ахвяраваў ТБК. 1 лютага кожны год у Вільні адзначаецца Дзень гімназіі. Такія сустрэчы ўзбагачаюць каштоўнымі зьвесткамі пра нашу гісторыю, адкрываюць яе новыя старонкі.

*Леакадзія Мілаш*
*Вільня*

